Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4819) 15 мая 2015 г.

## Пункцірам

✔ «Сёння, калі міжнародная супольнасць перажывае складаны крызісны час, гістарычная памяць і адзінства набываюць асаблівую каштоўнасць, — падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, наведваючы разам са Старшынёй КНР Сі Цзіньпінам Беларускі Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. — Савецкі народ, беларускі народ і Кітай аб'ядноўваюць не толькі шматгадовая дружба і ўсебакова стратэгічнае партнёрства, але і гісторыя баявога братэрства двух народаў у абароне сваіх краін ад агрэсараў. Беларусы і грамадзяне Кітая змагаліся за свабоду сваёй зямлі, за будучыню новых пакаленняў», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Расійскія пісьменнікі пры падтрымцы Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі і ўстаноў культуры Калінінградскай вобласці праводзяць з 18 па 24 мая літаратурны фестываль «Паравоз — выхад да мора». Фэст, які ладзіцца ў Год літаратуры, прызваны аб'яднаць таленты розных рэгіёнаў Расіі і замежжа для павышэння інтарэсу да літаратуры. Сустрэцца з калегамі на вакзале ў Мінску можна будзе 18 мая ў 23.55. Цягнік стаіць 20 хвілін.

✔ На пачатку мая ў гарадскім кінатэатры «Адысей» у французскім горадзе Страсбургу з нагоды 70-годдзя заканчэння Другой сусветнай вайны адбылася прэзентацыя мастацкага фільма «Брэсцкая крэпасць» кінастудыі «Беларусьфільм». У гэтым жа горадзе ў будынку Савета Еўропы прайшло беларускае мерапрыемства, у межах якога дэманстраваўся кароткаметражны фільм «Туфлікі» і адкрылася мастацкая выстаўка «Вайна і свет вачыма дзяцей».

✔ Харавыя калектывы з Беларусі, Расіі і Літвы бяруць удзел у X Міжнародным форуме студэнцкіх хароў «Папараць-кветка-2015», які праходзіць у Белдзяржуніверсітэце з 14 па 16 мая. Падчас урачыстага адкрыцця фэсту ў сталічным архікафедральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі выступілі 8 харавых калектываў. У гэты ж дзень адбыўся першы конкурс «Духоўная музыка». Гледачы пачулі хрысціянскія песнапенні ў выкананні больш як 250 удзельнікаў. Гала-канцэрт адбудзецца 16 мая пад адкрытым небам на плошчы Свабоды каля гарадской ратушы.

✔ Першая электронная інфармацыйна-даведачная база (*www.hist.bsu.by*) пра салдат і партызан Беларусі, якія загінулі або зніклі без весткі падчас Другой сусветнай вайны, распрацавана ў Белдзяржуніверсітэце. Мяркуецца, што праект дазволіць стварыць адзіную сістэму захоўвання звестак пра ўдзельнікаў тых трагічных падзей. Ініцыятарам і распрацоўшчыкам электроннай базы выступіў гістарычны факультэт БДУ. Крыніцай інфармацыі сталі кнігі серыі «Памяць. Гісторыка-дакументальныя хронікі беларускіх раёнаў».

ISSN 0024-4686





# Каб продкі прачнуліся

Незвычайная выстаўка адкрылася ў Замкавым комплексе «Мір». У межах адной экспазіцыі пад назвай «Баявыя нагалоўі і харугвы беларускіх земляў XI — XVII стст.» прадстаўлена гісторыя развіцця майстэрства вырабу шлемаў, што выкарыстоўваліся рыцарамі падчас баёў і на турнірах. Наведвальнікі Мірскага замка маюць унікальную магчымасць пазнаёміцца з вынікам больш як двух гадоў працы мінскай творчай суполкі «Сталёвая спадчына».

У межах экспазіцыі дэманструюцца каля 30 экспанатаў, 19 з іх — рэканструкцыі шлемаў, што паўтараюць узоры XI — XVII стст. Самы галоўны акцэнт — на ўзнаўленні згубленага шлема Мікалая Радзівіла Чорнага, 500-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета. Выстаўка дазваляе прасачыць эвалюцыю канструкцыі шлемаў, яны прадстаўлены ў экспазіцыі ў храналагічным парадку: ад XI стагоддзя, калі былі распаўсюджаныя сфераканічныя шлемы, затым паўсферычныя, бацынеты, салады, бургіньёты — і аж да гусарскага даспеха XVII стагоддзя.

Чытайце на стар. 8 ▶

# Геніямі нараджаюцца!

**Мінулае стагоддзе падарыла свету загадкавых геніяў. Два знакамітыя іспанцы — Пабла Пікаса і Сальвадор Далі. Мінчанам і гасцям сталіцы прадставілася рэдкая магчымасць параўнаць двух майстроў, супаставіць іх бачанне і думкі пра жанчын, карыду, Іспанію ды многае іншае — у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі ўпершыню выстаўлены трыццаць керамічных работ П. Пікаса, а таксама кераміка, графічныя работы і самыя знакамітыя скульптуры С. Далі.**

— Усе творы сапраўдныя. Гэта ўласнасць расійскага калекцыянера Аляксандра Шадрына. Ён 15 гадоў набываў прадметы на аўкцыёне *Christie's*, у калекцыянераў, у музеях, галерэях і аўкцыённых дамах Еўропы, і сёння менавіта ў А. Шадрына самая вялікая ў свеце прыватная калекцыя скульптур Сальвадора Далі. Вядома, для Мінска гэта сенсацыя, пад якую мы аддалі амаль увесь другі паверх музея, — распавёў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі Алег Рыжкоў.


*Сальвадор Далі «Тэлефон-лобстар». 1965 г.*

*Фота Кастуся Дробава*

Чытайце на стар. 16 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Кіно пра кнігі

У Мемарыяльнай зале Дома літаратара адбылася прэзентацыя патрыятычных буктрэйлераў у межах конкурснага праекта «Мой фільм пра вайну». Мерапрыемства арганізавала Мінская гарадская арганізацыя Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прадэманстраваны 13 кароткіх відэаролікаў паводле вядомых кніг Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Барыса Васільева, Уладзіміра Багамолава, Мікалая Чаргінца, зборніка ўспамінаў дзяцей вайны «Ніколі не забудзем» і іншых. Буктрэйлер — гэта кароткі відэаапавед пра кнігу, задача якога — зацікавіць чытача, падштурхнуць да знаёмства з кнігай. Аўтарамі буктрэйлераў выступілі старшакласнікі і студэнты навучальных устаноў г. Мінска. У абмеркаванні праекта актыўны ўдзел прынялі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў, першы сакратар Мінскай гарадской арганізацыі БРСМ Юрый Чачукевіч, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Выступоўцы адзначылі надзённасць і вартасць новай формы рэкламы патрыятычнай кнігі, яе дзейснасць у стварэнні станоўчага іміджу моладзі, якая чытае, адметнасць у выхаванні любові да Радзімы, фарміраванні цікавасці да яе гісторыі.

Конкурс будзе доўжыцца да канца мая, калі і пройдзе ўрачыстае падвядзенне яго вынікаў.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Кантакты і магчымасці

**«Круглы стол» на тэму «Актуалізацыя праблем славянскай узаемнасці» адбыўся ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда». Такі ракурс гаворкі быў абраны невыпадкова: з Масквы ў Мінск завітаў паэт, празаік, публіцыст, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Юрый Лошчыц.**




*Фота Кастуся Дробава*

*Падчас «круглага стала».*

На пачатку сустрэчы дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч адзначыў актыўную грамадзянскую пазіцыю Юрыя Міхайлавіча, прыгадаўшы, што яго раман «Дзмітрый Данскі» (1980), створаны для кніжнай серыі «Жыццё знакамітых людзей», неаднойчы перавыдаваўся.

Епіскап Барысаўскі, вікарый Мінскай епархіі Веніямін зазначыў, што прапанаваная для «круглага стала» тэма можа разглядацца з рознага пункту гледжання — гістарычнага, літаратурнага, духоўнага ці агульнакультурнага. Ідэя яднання людзей як дзяцей Божых глыбока ўкаранёна ў чалавечую свядомасць. Пацвярджэнне таму — яднанне народаў Еўропы ў барацьбе супраць фашызму. Але разам з тым у гісторыі Другой сусветнай вайны мелі месца і выпадкі, калі людзі забываліся пра тое, што яны — адзіны народ. На думку епіскапа Веніяміна, для захавання еднасці важна памятаць і ўрокі гісторыі, і духоўны складнік сучаснасці.

Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ Іван Чарота падкрэсліў, што ў асобе Юрыя Лошчыца заключана персаналізаваная ідэя славянскай супольнасці: у вёсцы Лапацічы, на Случчыне, знаходзіцца магіла яго прадзеда. Разам з тым родны мовай і культурай ён лічыць украінскую. На рахунку пісьменніка таксама шэраг расійскіх літаратурных прэмій. Новая праца Ю. Лошчыца ў расійскай кніжнай серыі «Жыццё знакамітых людзей» прысвечана роўнаапостальным Кірылу і Мяфодзію. Аднак гэта не белетрызаваная біяграфія, а глыбокае філасофскае даследаванне. Пяру Юрыя Міхайлавіча належыць і кніга «Славянскія святцы» (2006).

Доктар філасофскіх навук, прафесар Леў Крыштаповіч упэўнены: вяртанне сваіх традыцый, адраджэнне сваёй гісторыі, а не раздзяленне яе на асобныя перыяды — залог эканамічна развітай краіны.

Паводле доктара філалагічных навук, прафесара Святланы Ганчаровай-Грабоўскай, у асобе Юрыя Лошчыца арганічна акумуляваны ўсе вектары ўсходнеславянскіх літаратур, яго манаграфіі, несумненна, выклікаюць інтарэс у літаратуразнаўцаў. Сучасная руская літаратура развіваецца ў двух рэчышчах: працягвае традыцыі рускай класікі і ў той жа час мала канцэнтруецца на праблемах духоўнасці і маральнасці, па сутнасці з'яўляецца прагматычнай. І таму ў наш тэхнічны век зерне духоўнасці даволі цяжка сеяць сярод сённяшняй моладзі.

Дарэчы, Міністэрства адукацыі цяпер пераглядае школьную праграму па рускай літаратуры, трымаючы курс на класіку, на тыя мастацкія творы, якія здолеюць вярнуць новаму пакаленню ідэалы, якія паступова страчваліся. Ю. Лошчыц дадаў: у сваім гістарычным развіцці руская мова дала моцны штуршок для ўзлёту рускай літаратуры XVIII — XX стагоддзяў.

Паводле А. Карлюкевіча, ідэя рускай мовы як моста для прасоўвання беларускай літаратуры спрыяе рэалізацыі многіх праектаў Выдавецкага дома «Звязда». Прыкладам, кніжная серыя «Сугучча сэрцаў», якая выпускалася сумесна з нацыянальнымі саюзамі пісьменнікаў краін СНД з мэтай паказаць узровень айчыннай перакладчыцкай школы і даказаць, што інтарэс да беларускай літаратуры ёсць. Пазней з гэтай кніжнай серыі вырас і альманах «Сугучча». Здадзены ў тыпаграфію беларуска-расійскі нумар часопіса «Нёман». Плануецца і надалей умацоўваць нашы сувязі.

**Яна ЯВІЧ**

# Дасягненні акрыляюць

Фінальны этап гарадскога конкурсу чытальнікаў мастацкіх твораў сярод вучняў, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, адбыўся ў сталічным Доме літаратара. Удзел узялі амаль тры дзясяткі школьнікаў з розных раёнаў сталіцы.

Выступленні ацэньвала журы на чале з Міхасём Пазняковым. Фіналістаў конкурсу Віталь ганаровы член журы, пісьменнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі.

Што ж да конкурсных твораў, то школьнікі выконвалі вершы розных эпох — ад ваеннага перыяду да сучаснасці — аднолькава прачула, пранікнёна, душэўна. Таму вылучыць лепшых было складана.

Лаўрэатамі сярод вучняў 4 — 7 класаў сталі Анастасія Чыгарэўская і Алеся Парэчына (гімназія № 35), Аляксандр Ламака (СШ № 77) і Марына Белазорава (гімназія № 7). Лепшымі сярод вучняў 8 — 9 класаў прызнаны Аляксей Стрэльскі, Ягор Багдановіч і Ангеліна Тугай (СШ № 23), Сяргей Струеў і Яна Івашка (гімназія № 7), Анастасія Недашкоўская (СШ № 77). Сярод вучняў 10 — 11 класаў перамаглі Аксана Максімовіч (гімназія № 35), Вераніка Швед (СШ № 218), Мацвей Кобрын (СШ № 77) і Анжаліка Бурназ (СШ № 23). Ніводзін удзельнік фіналу не застаўся без памятнага падарунка. А значыць, ёсць стымул і перспектывы для ўдзелу ў наступных конкурсах!

**Арына КРАЙКО**

# Прыярытэт — партнёрства

У Астане прайшло пасяджэнне XXII Асамблеі народа Казахстана. Удзельнічаў у высокім форуме і Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў.

Сярод іншых гасцей і дэлегатаў — і прадстаўнікі беларускага супольніцтва Казахстана. Варта зазначыць, што беларуская дыяспара ў далёкай азіяцкай краіне даволі прадстаўнічая. Многія ўраджэнцы Беларусі і іх нашчадкі не забываюцца пра сваю сувязь з канкрэтнымі беларускімі адрасамі. Ды і ў самім Казахстане віруе грамадскае беларускае жыццё. У інтэрнэце працуе заснаваны Міхаілам Булававым «Беларускі партал у Казахстане». Нават паселішча ёсць з назвай Марынагорка — і назву гэтую далі перасяленцы пачатку XX стагодзя з Пухавіччыны, Мар'інай Горкі, што на Міншчыне. У кулуарах асамблеі, на тых мерапрыемствах, якія спадарожнічалі асноўнаму пасяджэнню, ішло шмат размоў пра беларуска-казахскія літаратурныя сувязі. Была прэзентавана серыя «Сугучча сэрцаў», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», кніга паэзіі Абая «Стэпавы прастор», перакладзеная на беларускую мову лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколам Мятліцкім, кнігі казахскага пісьменніка і вучонага Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею» і «Пісьмы да сына», таксама перакладзеныя на беларускую.

— У нас склалася добрае пратнёрства з пісьменніцкім асяроддзем Беларусі, — сказала ўдзельніца Асамблеі народа Казахстана, — і мы гэта вельмі высока ацэньваем.

Стасункі беларускіх і казахстанскіх літаратараў — і тэма інтэрнэт-пляцоўкі «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін СНД», якая працуе па адрасе *www.sozvuchie.zviazda.by*.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Адзнака беларускасці

У Баку Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Азербайджане Мікалай Пацкевіч уручыў медаль Францыска Скарыны вядомаму азербайджанскаму паэту Чынгізу Аліаглу.

Сама ўзнагарода, Указ аб якой Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў пэўны час таму, ёсць сведчанне вялікага ўкладу Чынгіза Аліаглу ў развіццё беларуска-азербайджанскіх літаратурных і культурных стасункаў. За мінулыя дзесяцігоддзі творца неаднойчы бываў у Беларусі. Удзельнічаў у міжнародных круглых сталах «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго», што ладзяцца Міністэрствам інфармацыі краіны, Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Выдавецкім домам «Звязда», у Мінскім міжнародным сімпозіуме «Пісьменнік і час». Дзякуючы рупліваосці спадара Чынгіза ў Баку выходзяць творы беларускіх літаратараў у перакладзе на азербайджанскую мову.

Уручэнне ўзнагароды супала з прэзентацыяй апошніх кніг Чынгіза Аліаглу, якія былі выдадзены да яго 70-годдзя ў Баку, Мінску і Маскве. Віншуючы свайго калегу са знакавай падзеяй, зычым і далейшага плёну ў яго творчых памкненнях, такога ж прыязнага стаўлення да Беларусі, якое ён выяўляе праз многія гады.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Юбілейны медаль пісьменнікам

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь міністр абароны нашай краіны ўзнагародзіў юбілейным медалём «70 год Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945» вялікую групу прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. Сярод іх — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Барыс Даўгатовіч, Яўген Каршукоў, Леанід Лукша, Міхась Пазнякоў, Міхаіл Шыманскі. Гэтай адметнай узнагародай адзначаны іх вялікі асабісты ўклад у патрыятычнае выхаванне насельніцтва Беларусі. На іх творчым рахунку шматлікія ваенна-патрыятычныя творы, пастаянныя выступленні ў самых розных аўдыторыях, у тым ліку і вайсковых.

Раней гэтым юбілейным медалём былі ўганараваны пісьменнікі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны: Васіль Гурскі, Анатоль Дзялендзік, Леанід Дзянісаў, Мікалай Іваноў, Іван Муравейка, Алесь Савіцкі, Анатоль Сульянаў, Уладзімір Федасеенка, Алесь Шашкоў.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Тыгры ды зімовы пейзаж



Мастацкая імправізацыя ад Аа Тэ.

Вечар 8 мая ў сценах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы аб'яднаў не толькі два народы — беларускі і кітайскі, але і два віды мастацтваў — жывапіс і музыку.

Акрыццё выстаўкі Аа Тэ, вядомага кітайскага мастака, было прымеркавана да Дня Перамогі, і «тэматычная» праца творцы суседнічала з экспрэсіўнымі пейзажамі ды выявамі тыграў, дзякуючы якім, дарэчы, Аа Тэ і набыў вядомасць.

Музычную частку вечара аздобілі кампазітар Ганна Кароткіна і салістка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Ганна Бяляева.

Аа Тэ ўдзельнічаў у выстаўках у Кітаі, Японіі, Францыі, ЗША, Канадзе, Даніі ды іншых краінах. Ён член Пастаяннага камітэта Асацыяцыі культурных абменаў Кітая і член рэдкалегіі часопіса «Мастацтва Кітая». Працы Аа Тэ захоўваюцца ў Доме народных сходаў Кітая, Чжунаньхаі (будынак Урада КНР), Дзяаюйтаі (дзяржаўная рэзідэнцыя). А таксама — у музеі Янкі Купалы: партрэты самога Купалы і Якуба Коласа.

Гэта другі візіт Аа Тэ ў Беларусь. Сёлета, 6 мая, ён браў удзел у міжнародным плэнеры жывапісу ў Магілёве, дзе атрымаў галоўны прыз. Аа Тэ ўзнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства культуры.

Выстаўка прац Аа Тэ ў музеі Янкі Купалы арганізаваная Рэспубліканскай канфедэрацыяй прадпрымальніцтва, якую прадставіў Уладзімір Карагін, Канфедэрацыяй творчых саюзаў і ўласна музеем пры ўдзеле Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ (інстытут на адкрыцці прадставіў дырэктар Аляксандр Гардзей).

Слова бралі таксама Навум Гальпяровіч, дырэктар міжнароднага радыё «Беларусь», якое вяшчае ў тым ліку і на кітайскай мове, актрыса Святлана Сухавей, вядомая ролямі ў ваенных стужках. Спадарыня Святлана звярнула ўвагу на магчымасці супрацоўніцтва ў сферы кіно: «Кінематограф Кітая надзвычай цікавы, і ў будучым, калі мы спалучым нашыя сілы, можна атрымаць вельмі цікавы вынік».

Музычная частка сталася арганічным дапаўненнем да выстаўленых работ Аа Тэ, асабліва — імправізацыя Ганны Кароткінай. Акрамя таго, Ганна Бяляева выканала кітайскую народную песню «Аксамітавая кветка» на кітайскай мове, песню «Ёсць традыцыя ў Кітаі» (музыка Г. Кароткінай, словы Ігара Бабака), «Бацькаўшчыну» на словы У. Караткевіча. Завяршыла вечар музычная прэм'ера — песня «О, Радзіма!» на словы Рыгора Ткача і мастацкая імправізацыя Аа Тэ.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Шумяць яго дубровы...



Пайшоў з жыцця на 93-м годзе Васіль Рыгоравіч Гурскі. Старэйшына ў пісьменніцкай грамадзе Міншчыны. Старэйшына ў нашым творчым саюзе. Гэта здарылася 10 мая. На другі дзень пасля 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Развітваючыся з пісьменнікам, нельга не ўзгадаць, што быў ён чалавекам руплівым, рашучым, невыпадкова сама постаць, сама жыццёвая і творчая біяграфія натхніла яго маладзейшага таварыша Дзмітрыя Вінаградава на стварэнне дакументальнай кнігі пра Васіля Рыгоравіча. Ёсць у той кнізе розныя старонкі. Шмат — і пра драматычныя моманты жыцця, пра неспакойны характар чалавека з выразнай грамадзянскай, сацыяльнай пазіцыяй. Такімі, пэўна, з'яўляюцца і ўсе сапраўдныя, баявыя, смелыя партызаны і франтавікі. Такім быў і Васіль Гурскі — кавалер двух ордэнаў і шматлікіх медалёў.

Аўтар амаль трыццаці кніг, дзе ў большасці твораў — пранізлівы, шчыры аповед пра Вялікую Айчынную. Пісьменнік уважліва ўглядаўся ў сучаснае жыццё. Таму і цягнуліся да яго калегі па пісьменніцкай грамадзе Уздзеншчыны, таму любілі бываць у яго вясковай хаце. «Ля вытокаў Нёмана», «Хмары над Міншчынай», «Пушчы і дубровы славай шумяць» — гэтыя кнігі неадноймы прыцягвалі ўвагу крытыкаў, гэтыя кнігі з таго арсенала бібліятэк, які знаходзіць сваіх чытачоў. І спадзяёмся, што будзе знаходзіць надалей. У творах Васіля Гурскага — боль і пачуцці чалавека, які любіць сваю Радзіму, які дзеля яе красы і славы не шкадаваў жыцця, не хаваўся за чужымі спінамі.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі, Мінскае абласное аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Васіля Рыгоравіча ГУРСКАГА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Краіна натхнення

Фестываль дзіцячай тэатральнай творчасці «Чароўны куфэрак» — традыцыйнае свята талентаў і новых ідэй. Дзясяты раз, з 22 па 24 мая, збяруцца юныя прыхільнікі Мельпамены на Любаншчыне, каб прадэманстраваць майстэрства і сустрэцца з сябрамі-калегамі ў вірлівым тэатральным карагодзе.

Дзіцячы тэатр. Глядзіш спровезць «Камарыка-насатага тварыка» М. Багдановіча, «Вандроўку сіняй стралы» Дж. Радары альбо прыгоды «Стойкага алавянага салдаціка» Г. Х. Андэрсэна і спрабуеш зразумець: у чым памылка Снежнай Каралевы і што ўбачыла Аліса ў Залюстроўі?

Фестываль «Чароўны куфэрак» пройдзе пад зоркай года Г. Х. Андэрсэна, якому сёлета спаўняецца 210 гадоў. А яшчэ ў межах Года моладзі на цэнтральнай плошчы г. Любані будзе ладзіцца цікавы творчы праект "Тэатральны хаўрус": юныя артысты фестывалю разам з творчым калектывам «Майстэрня ўражання» пакажуць «Шляхецкія забавы» і прадэманструюць балаганнавідовішныя прадстаўленні.

Весці тэатральны рэй будуць дэкан тэатральнага факультэта БДАМ — У. Мішчанчук, тэатральны крытык Н. Бунцэвіч, загадчык літаратурнай часткі рэспубліканскага Тэатра юнага гледача Ж. Лашкевіч, рэжысёр і педагог М. Мішын, малады драматург Т. Ламонава.

Упэўнены, «Чароўны куфэрак» падорыць радасныя і шчаслівыя імгненні, адкрые новыя імёны.

**Васіль КАТКАВЕЦ,**
**начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Любанскага райвыканкама**

# Ад імя сведкаў

Святочным часам у кватэры ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны Пятра Броўкі сабраліся прадстаўнікі розных пакаленняў — каб ушанаваць памяць ахвяр вайны і раздзяліць радасць доўгачаканай Перамогі. Для наведвальнікаў была падрыхтавана аўтарская літаратурна-музычная кампазіцыя «Адно ў вайны схові шча — мір». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — паэтэса Вера Буланда.

Выступоўцы звярнуліся да кнігі Сяргея Смірнова «Брэсцкая крэпасць», да ўспамінаў маленькай сведкі вайны, дзівам выратаванай ад смерці. Гучалі вершы беларускіх паэтаў, музыка ваенных гадоў. Выключнае эмацыянальнае ўздзеянне тэкстаў узмацнялася паказам фрагментаў дакументальных стужак, відэапрэзентацыяй карцін і фотаздымкаў пра вайну. У літаратурна-музычнай кампазіцыі ўдзельнічалі Ян Мяльніцкі, Вера Міхно, Галіна Лебедзева (Яна), Лізавета і Елісей Вішэўскія, сведка Вялікай Айчыннай вайны Ігар Арлоў.

Завітаў у музей і паэт Анатоль Вярцінскі, які прыгадаў, як у адзінаццаць гадоў вёз на кані ў пушчу галоўнага лепельскага партызана Уладзіміра Лабанка. Анатоль Ільіч падзяліўся з аўдыторыяй роздумамі пра вайну: «Раней любілі казаць, што савецкі народ перамог фашызм, нацызм... Але сама ідэалогія не пераможана да канца. Пра гэта сведчаць ваенныя падзеі ў розных мясцінах планеты. Войны пачынаюцца ў галовах людзей...».

Марына Натальіч расказала пра нядаўна выдадзены першы том дзённікаў і запісаў Рыгора Барадуліна і параіла наведвальнікам, пераважна вучням мінскай школы № 148, пачытаць успаміны народнага паэта пра падзеі ваеннага дзяцінства.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Дарогамі вайны

Імпрэза пад такой назвай, прымеркаваная да 70-годдзя Вялікай Перамогі, прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Аддаць даніну памяці загінуўшым ды ўзгадаць трагічныя падзеі ў гасцёўню дома Коласа завіталі паэты Навум Гальпяровіч і Мікола Мятліцкі, а таксама кіраўнік Студыі ваенных пісьменнікаў Цэнтральнага Дома афіцэраў Яўген Каршукоў.

Вайна стала вялікім горам і для сям'і Якуба Коласа. Яна адабрала ў Песняра сына Юрыя, які трагічна загінуў пры абароне горада Ярцава. Сам паэт, яго жонка Марыя Дзмітрыеўна, сыны Даніла і Міхась былі вымушаны пакінуць Радзіму і з'ехаць у Ташкент, дзе жылі да 1943-га.

Спецыяльна да імпрэзы супрацоўнікі ўстановы стварылі ўнікальную выстаўку, дзе прадстаўлены матэрыялы пра жыццё паэта і яго блізкіх у ваенныя гады: дакументы, фотаздымкі, кнігі, лісты, рукапісы вершаў. Дэманструюцца асабістыя рэчы Якуба Коласа, падораныя яго сябрамі-ўзбекамі: цюбецейка ды фарфоравая піяла. Асаблівую каштоўнасць мае партрэт, зроблены з натуры Таццянай Жырмунскай.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Свечкі памяці

Імпрэза «Захаваем у памяці Вялікую Перамогу», арганізаваная сталічным аддзяленнем СПБ, адбылася ў Доме Масквы. Вучні сярэдняй школы № 23 горада Мінска — навучэнцы студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі прыемна здзівілі гасцей, сярод якіх былі і ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

Натхнёна, шчыра, пранікнёна дзеці чыталі вершы, што ўвайшлі ў кнігу «Пераможцы» — сумесны праект пісьменніцкіх арганізацый г. Мінска і Цюменскай вобласці. Яна пабачыла свет і ў Цюмені, і ў айчыннай «Мастацкай літаратуры».

У праграме ўзялі ўдзел пісьменнікі-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі празаік Алесь Савіцкі і паэт Мікалай Іваноў, паэтэса Ала Чорная, якая дзіцем перажыла блакаду Ленінграда, пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Валянціна Паліканіна ды Наталія Касцючэнка, якая падрыхтавала і правяла імпрэзу.

**Вольга ГЛУШЧАНОК**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**15 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Нінай Галіноўскай, якая адбудзецца ў гімназіі № 7 (вул. Захарава, 58). Пачатак у 11.55.*

**16 мая** — *на прэзентацыю сумеснага зборніка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і Цюменскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі «Пераможцы». Мерапрыемства пройдзе ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце (вул. Свярдлова, 13). Пачатак у 9.50.*

**18 мая** — *на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 114 (вул. Сядых, 66). Ганаровы госць — старшыня МГА СПБ, пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**19 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго, якая пройдзе ў гімназіі № 7 (вул. Захарава, 58). Пачатак у 8.55.*

**20 мая** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на літаратурна-музычнае свята з удзелам паэта Міхася Пазнякова і кампазітара ды спевака Аляксандра Якіменкі. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**20 мая** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчы вечар паэта і літаратуразнаўца Валерыя Максімовіча. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**20 мая** — *у паэтычны клуб «Парнас» на свята паэзіі «Сустрэча пакаленняў» з удзелам групы паэтаў. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

## Валянціна
## ПАЛІКАНІНА

### ***

Нясцерпным
кахання агнём
наталяецца дзева,
Якую гарачая ноч
да вяснушак
раздзела,
Да чорных радзімак на целе,
Да сполаху лона,
Да ўсплёску нервовага жарсці,
Да ўскрыку,
Да звону.
Да току ад пальчыкаў ног
Да макушкі,
Да профілю поўні на змятай
заспанай падушцы,
Да самых асмеленых слоў,
Да слязінкі ўзбуджэння,
Да сноў,
Да наіўных надзей,
Да жыцця нараджэння.

### Памяці Максіма Багдановіча

Не зберагла, не засланіла
Нябёсаў ветлая далонь.
Яго далёкая магіла
І сёння кліча праз сутонь.

Не, не з Парыжа і не з Ніцы
Зямля, што зведала баласт,
Дзе ў дружбе сябра не ўсумніцца,
За радасць вораг не прадасць.

І дзе паэт не ўскіне кубка
І не гукне: «Жыццё — мяжа»,
Ды сядзе шэрая галубка
На пераносіцу крыжа.

Там ліст асенні, ліст сірочы
Распяты будзе, як прарок,
На скрыжаванні дня і ночы,
Дзе слёзна росіцца «Вянок».

Там пройдзе дождж, лагодны, весні,
І хвалі сцішацца да дня
Ля міжрадкоўя вечнай песні,
Што лёсу светламу раўня.

### Гарадок

На акенцы — герань, і дымок
з паўразваленай печкі,
І зямная усмешка, і тайна,
што ў сэрцы смыліць...
На крутым беражку
неўтаймоўна-разбэрсанай рэчкі,
Колькі помніць сябе,
гарадок невялікі стаіць.

Гарадок паўзабыты,
дзе зрэдку
мо рыпнуць арэлі
І дзе ў строгіх дзяўчат не такі й
заклапочаны твар,
Дзе сабакі снуюць і бабулі
брыдуць малавеле,
Дзе мужчыны не знойдзеш —
на дзесяць двароў перастар.

Дзе плятуцца ў кашы паслухмяныя
пругкія лозы,
Дзе ў вакольным ляску воўк
Купаллем скуголіць-раве,
Дзе на клубе замкнёным дажджамі
залатаны лозунг
Шчэ з далёкіх часоў да шчаслівага
заўтра заве,

Дзе ў царкоўцы пабляклай
апошні раскаяўся грэшнік,
Дзе званоў адгалос
рассыпаецца
хмараў паміж,
Дзе наводшыбе
вечарам плача
ўдава несуцешна
І, як рэха вайны, —
невядомаму
подзвігу крыж.

Дзе настаўнік былы разумее:
развіт непазбежны,
І ссівелы млынар зноў падносіць
мяшкі на спіне,
Дзе на схіле гадоў
час супыніцца
госцем начлежным
І ў гадзінніку
даўнім зязюляй
навекі засне.

### ***

Яшчэ пячэ. Не адбалела...
Шчэ ноч не выпіта савой.
Адценні шэрага на белым
Здзіўляюць яркасцю сваёй.

Яшчэ далёка да змяркання,
Яшчэ спакуса дзесь наўзбоч.
Яшчэ нявінным спавяданням
Далёка так да грэшных воч.

Яшчэ маўчанне нібы шчасце,
Яшчэ з нябеснага паста
На тайну першага прычасця
Глядзіць скупая немата.

**Пераклад з рускай мовы**
**Міколы ШАБОВІЧА**

## Андрэй
## РАСТАРГУЕЎ

### У Міхайлаўскім

Пакінь сяброў, сцяжынай кроч у поле,
дзе ходзіць конь па волкай цішыні,
угледзь душой ты прадчуванне волі,
разлітае ў нябеснай вышыні.
Кроч, абмінаючы агеньчыкі жывыя,
у жоўтых вокнах ды гародамі пасля...
І следам — валуны, бы вартавыя,
святая, запаведная зямля.
Там вольна чуюцца абсягі у сінечы,
глыбокія азёры, як сляза,
а на палянах распраўляе плечы
дубочкаў лукаморская драбяза.
Іх кожны ўдых, з вялікай Божай ласкі,
на ўсе вякі ўбірае перазвон
нязгаснай радасці паэзіі ды казкі —
усё, чым мой народ жыве здавён.

### Марыя і апостал Іаан

Дзве статуі ад часу ўжо сівыя,
а паглядзеў — нібыта без заган стаў:
Божухна, якія ж маладыя
Марыя і апостал Іаан!
Але мастацтва — гэта справа густу,
ды ісцінаю б'е пад самы дых:
выходзіць, што зямнога лёс Ісуса —
гісторыя, няйнакш, пра маладых...
Ці не таму ўсё не ўзвышае памяць
адказ на жарсць, ды знойдзе сто прычын
схаваць навек у снегавую замець
Шляхі мае і маладых жанчын.
Каменне раскідаю і плады я,
Мне сэрца разрывае акіян.
Ды, Божа мой, якія маладыя
Марыя і апостал Іаан...

### ***

Як жыццё сыходзіць ад зямлі?
Дым клубіцца, дзе гараць кастры.
Хоць гаіцца раны пачалі,
Толькі боль усё часцей знутры.
Пацямнела ў тайніках стала
Дзедава нагрудная латунь.
Знесці разам памяць не змагла
Снег на цвет і зазімак на рунь.
А пакуль імклівыя гады
Праплываюць дымам ад кастроў,
Здольны клапатлівы час заўжды,
Асвяжыць людскую плоць і кроў.

### Валёнкі

На кавадле нашым неразлучныя
Медзь і золата сібірскага «РасМаш»,
Да ўсяго валёнкі носяць зручныя —
І не толькі дворнікі, заўваж.
Вострыя ці, можа, тупарылыя,
Ганьбіць чаравікі не з рукі,
Ды зраўнялі птушкі белакрылыя
І рубель, і тыя ж пятакі.
Посцімся ці грэшныя ў празмернасці —
А наяве ўсё, што на душы?
Па жыцці прайсці дарогай вернасці —
Толькі праз сябе, што ні кажы.
Чаю! Потым «люленькі» ды «баінькі».
Насамрэч гарэлкі не люблю...
Лепш валёнкі, а па-руску — «валенки»,
Екацерынбургскія куплю.

**Пераклад з рускай мовы**
**Іны ФРАЛОВАЙ**

## Тамара
## КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА

### ***

За што, за што мне гэта прыгажосць
І вечнае над светам зорак ззянне,
І неба вышыня, яго мілосць,
Дарма — сусвету усяго гучанне?!

За тое, пэўна, што ў адзіны міг
Закончыцца дыханне чалавека?
Ды вечны свет — не знікне, як не знік.
Для тых, хто верыць, гэта ўсё — навекі.

### Стары дуб

Колькі на вецці тваім ляжыць зім,
Дуб старажытны, а вёснаў?
Колькі ты сокаў зямліцы спажыў,
Каб зашумець па-над вёскай?

Столькі ўзрасціў ты сваіх жалудоў!
Нешта ж дубочкаў не бачна.
Пэўна, іх воран галодны знайшоў
І пакляваў. Ці прабачыш?

І не пажалішся: раны баляць,
І не папросіш прытулку...
Крону ламаючы, ветры шумяць,
Буры... Заснежаны вулкі...

Велічна ты, як заўсёды, стаіш,
Дуб старажытны, магутны.
Снегу падушкі на вецці — не спіш,
Плачаш у іх ледзьве чутна.

### ***

О, каб жа вас я не кахала
Так моцна, верны мой і мілы,
Даўно б забыла вас і стала
Тым жураўлём, што ў небе стылым
Ляціць туды, дзе вечна лета,
Дзе ўсё ў прыродзе абагрэта
Цяплом ад сонца круглы год,
Я ж — тут, дзе ўсё наадварот.

### Наляцела вясна

Наляцела вясна, і дамы паплылі, паляцелі
Караблямі над пожняй зялёнай
у свежую стынь.
З імі разам і дрэвы таксама
ўзляцець захацелі —
І ўзляталі у плынь яснавокай
вірлівай вясны.

Засталася адна я, а клён мой,
вясной захмялеўшы,
Праімчаўся наўзбоч і таксама
кудысьці паплыў,
Мне туман памахаў у акенца,
падняцца паспеўшы,
Белым сцягам, нібы зразумець
і прабачыць прасіў.

А вясна узнімалася ўвысь
з невыказнаю сілай
Нада мной, а я верыла ўсім
на зямлі і ўсяму:
Небу, хвалям і дрэвам, дамам,
што плылі, і прасіла,
Каб з сабой узялі, ды ніхто
не сказаў мне: «Вазьму!»

### Дзед Даніла

Ён пчол змахнуў крылом гусіным,
Дапампаваў апошні мёд...
Прапахлі воскам, небам сінім
І дзед, і дом, і ўвесь наш род.

А хітрыкі не мелі месца.
Была тут праца. Што казаць —
Дні светлыя, нібы нявесты,
Плылі, буяла сенажаць.

Ў шурпатых дзедавых далонях
Былі пяшчота і цяпло,
Любоў, цярпенне... Прад іконай
Стаяў наш дзед — знікала зло.

Прабач, дзядуля, не заўсёды
Магла твой клопат я прыняць:
Жыць з веданнем: гады — як воды,
І паслязаўтра — паміраць.

**Пераклад з рускай мовы**
**Галіны ЗАГУРСКАЙ**

### ***

Як час ляціць! Юнацтва адгрымела,
І цела горай чуецца з гадамі.
Ды што ж тады рабіць на свеце белым
З душой? Яна такая маладая!

І рвецца ў вышыню, і шчасця просіць,
І ўзросту бы не ведае, дзівачка,
То ў неба пачуцця віхура ўзносіць
Яе, то зоркі вабяць, то заплача,

То запяе насустрач травам росным,
То палыновай горыччу ўзарвецца,
То жаўрука званочкам над пакосам,
Над аксамітнай рунню льецца, льецца...

І хочацца кахаць! Ракой вірлівай
У мора плыць і з бурамі змагацца,
Імчаць, ляцець ля самага абрыва
І аніколі, чуеш, не сарвацца.

### Паэзія

Рабінай запалае ў гушчары
Ці сонцам выгляне з-за хмары.
Пяшчотай мільгане на твары
Ці таўхане пагардліва з гары.
Ляці палаючай дарогай у слякоту,
Махай рукамі, як не маеш крылаў.
Маўчы, як чуеш блізкія грымоты,
Будзь пільнай, каб маланка не спаліла.
Паэзія — ці мачыха, ці маці.
Засвой трывала ты яе навуку:
Увысь ляцець — дык салаўём спяваці,
А ўпасці ніц — дык пылам... І ні гуку.

**Пераклад з рускай мовы**
**Людмілы АРДЫНСКАЙ**



Фота Кастуся Дробава

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

# Каралева школьнага саду



У мітусні дзён мы настолькі засяроджваемся на ўласных справах, клопатах і праблемах, што зусім не заўважаем таго, што адбываецца навокал.

Вось і я спяшалася па справах. Як заўсёды. Выскачыла з дому з такім звыклым «зноў спазняюся!» і пабегла на аўтобусны прыпынак. Я і сапраўды спазнілася. Калі завярнула за вугал дома, то ўбачыла, як аўтобус закрыў дзверы і паехаў. «Каб на паўхвілінкі раней выйшла!» — дакарала сябе. Але нічога не зробіш, давядзецца чакаць наступнага, зноў спяшацца, бегчы, тлумачыць, чаму спазнілася... У такіх думках прыйшла на прыпынак, прысела на край лавы, разглядала распісаны мясцовымі вандаламі прыпынкавы павільён і думала пра сваё: куды патрэбна паспець зайсці, што сказаць, што зрабіць...

У мае развагі настойліва пранікаў нейкі непрыемны назойлівы гук. Машынальна агледзеўшыся па баках, не знайшла, што гуло. Я будавала планы на дзень, а гэта беспярапыннае зумканне перашкаджала мне, нервавала, не давала засяродзіцца. Нарэшце прыйшоў аўтобус, я села ў яго і з палёгкай з'ехала ад гэтага надакучлівага гулу, які чамусьці пасеяў у душы незразумелую трывогу.

Дзень у справах і турботах мінуў непрыкметна, а на ўспамін пакінуў стомленасць, нават спустошанасць. Я вярталася дадому. Выйшла на сваім прыпынку, тым самым, з якога паехала раніцай. Дзве хвіліны — і я дома... Узгадала, што не купіла хлеба. Давядзецца зайсці ў краму. Уздыхнуўшы, скіравала да гандлёвага цэнтра, а каб скараціць шлях, пайшла праз школьны двор.

Ізноў думкі-клопаты апанавалі, нібыта ўзялі ў палон. Згатаваць вячэру, праверыць урокі ў сына, папрасаваць мужавы кашулі... Задумаўшыся, я зайшла за школу і спынілася, нібыта наляцела на нябачную сцяну. Прама перада мной на зямлі ляжала вялізнае спілаванае дрэва. У падсвядомасці зазваніў трывожны званочак. Дрэва! Гэта дрэва... Гэта ж яна! Бяроза! Вось што гуло раніцай! Гэта ж яе пілавалі!

Я абвяла позіркам школьную тэрыторыю. Яна стала пустой, нават нейкай асірацелай. А на звыклым месцы больш не было той самай вялікай бярозы. Магутнае дрэва, распілаванае на некалькі частак, ляжала на зямлі. Я забылася і на хлеб, па які ішла ў краму, і на вячэру, якую збіралася гатаваць, і на ўрокі, што трэба праверыць, і на кашулі, што чакаюць увагі праса.

Нясмелымі дробнымі крокамі падышла да бярозы. Адчуўся пах свежай драўніны, і да маіх вачэй падступілі калючыя слёзы. Я прысела каля магутнага спілаванага ствала, нясмела дакранулася да шурпатай кары. Недзе ў сэрцы ўзнялося шчымлівае пачуццё, падалося, нібыта дакранулася да нябожчыка. Я села на бярозавы ствол, па шчоках пабеглі гарачыя слёзы. Так шкада мне было гэтае старое дрэва, жыццё якога абарвалася сёння. Я павольна прайшлася вачыма па ствале. Месцамі кара палопалася, пад ёй была бачна гнілая сярэдзіна. Такое дрэва было небяспечным, ад парыву ветру яно магло зламацца і ўпасці, прама на школу, а там дзеці...

Але бярозу ўсё адно было вельмі шкада. Яна стаяла каля самай школы, вакол яе расло яшчэ некалькі бярозак, але значна маладзейшых, меншых. Побач прытулілася колькі вербаў. Крыху паводдаль пачынаўся школьны яблыневы сад. Старая бяроза была каралевай саду. Высокая, стромкая, прыгожая. Яна расла тут даўно, вельмі даўно... Паўстагоддзя таму пабудавалі школу. І бяроза бачыла, як гэта адбывалася, яна сустракала першых вучняў, назірала, як яны растуць, пераходзяць з класа ў клас, пакідаюць родную школу. Пакаленні, пакаленні, пакаленні школьнікаў прыйшлі ў гэту школу маленькімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі. Тут яны вучыліся і раслі, прыгожымі юнакамі і дзяўчатамі выпускаліся, ішлі ў дарослае жыццё.

Праз вокны, у якія бяроза зазірала кожны дзень, яна бачыла і настаўнікаў, што прыходзілі ў школу маладымі спецыялістамі, бачыла, як ляцелі гады чалавечага жыцця, як гэтыя настаўнікі сталелі, яна назірала, як скроні іх кранала сівізна, як яны развітваліся са школай і ішлі на заслужаны адпачынак. Нямала педагогаў змянілася тут за жыццё старога дрэва.

Мне думалася пра тое, што ў гэту школу некалі хадзіла мая мама. Бяроза бачыла матулю маленькай дзяўчынкай. Я ўявіла, як яна, апранутая ў карычневую форму і беленькі фартушок, сядзіць за партай і піша ў вучнёўскім сшытку, як адказвае каля дошкі, як, пачуўшы званок, спяшаецца на перапынак... Сёння мая мама — бабуля, у якой пяць унукаў, а бяроза памятае яе школьніцай з прыгожымі косамі.

А яшчэ бяроза мусіць памятаць, як мама з татам прыводзілі сюды нас — траіх сваіх дзяцей. Брат, сястра і я таксама вучыліся тут. Цяпер у гэтай школе вучыцца мой сын.

І кожны з нас, зірнуўшы ў акно, заўсёды бачыў вялікую, прыгожую бярозу. У верасні яна вітала нас зялёным лісцем, дзе-нідзе кранутым восеньскай пазалотай. Потым мяняла зялёны колер на залаты і паступова скідвала сваё ўбранне. На ўроках працы школьнікі зграбалі лісце, наводзілі парадак. Зімой бяроза прыбіралася ў срэбра, якое вельмі пасавала ёй. Часам какетлівая красуня накідвала на сябе снежны бліскучы вэлюм. І хоць прыгожа было, яна чакала вясны. Першыя цёплыя промні ажыўлялі дрэва, і па ствале бег сок жыцця. Бяроза прачыналася і ўпрыгожвалася доўгімі завушніцамі.

Ад гэтага ўспаміну я здрыганулася, у скронях загрукаталі малаточкі. Я вырвалася з успамінаў і глянула на распілаваныя галіны. Якраз зараз яны паспелі ўпрыгожыцца тымі доўгімі завушніцамі... Яшчэ свежыя і зялёныя. На ўжо мёртвым дрэве. Шкада, як шкада, што бярозу спілавалі ў красавіку, калі яна прачнулася пасля зімы і набрала сілы. Яна збіралася жыць, зноў зазіраць у школьныя вокны, слухаць званкі на ўрокі і з урокаў. Яна памерла вясной...

Я злавіла сябе на думцы, што ў жыццёвых клопатах, у паўсядзённай мітусні я і не заўважыла, што надышла вясна, што на дрэвах пачало распускацца лісце. Я сядзела на шурпатай кары і гладзіла яе рукой. Да майго слыху данесліся спевы птушак, шапаценне ветрыка ў галінках маладых бярозак, што раслі побач. Мне падавалася, што яны з болем глядзяць на сваю сястру і ціха ўздыхаюць.

Званок мабільнага тэлефона вярнуў мяне з успамінаў у рэальнасць. Дома пачалі непакоіцца, што я затрымліваюся. Сапраўды, ужо пачынала змяркацца, а я і не заўважыла, што прабыла ля бярозы так доўга. Хлеб купілі, ісці ў краму мне ўжо не трэба было. Яшчэ хвілінку я пабыла ў школьным двары, развіталася з каралевай школьнага саду. Адыходзячы, адламіла маленькую галінку з завушніцамі — на ўспамін.

Іван ЛОСІКАЎ

# Абраз

Апошнім часам няшчасці навальваліся на Дар'ю Максімаўну даволі часта. То адно, то другое. Не прайшло і трох год пасля смерці мужа, як на яе абрынулася яшчэ адна вялікая бяда: згарэла хата.

Пажар здарыўся познім вечарам. Дар'я Максімаўна глядзела па тэлевізары любімы серыял і была захоплена ім так, што не адразу заўважыла, як у іншым пакоі, так званай пярэдняй, распаўзалася па сцяне полымя — спачатку маленькім, ледзьве бачным язычком, а потым — мацней, са шпалер перакінулася на фіранкі... Калі жанчына, пачуўшы пах гарэлага, адчыніла дзверы, каб зірнуць, што здарылася, полымя шуганула ёй проста ў твар. Інстынктыўна яна спярша лінула на сцяну рэшткі вады з вядра, потым схапіла куфайку і пачала махаць ёю, аднак нарэшце сцяміла, што агонь не перамагчы, і, выскачыўшы на падворак, а адтуль — на вуліцу, узняла лямант:

— Людзі! Людзі, ратуйце!..

І тут яна заўважыла: заўсёды звонкі, чысты, моцны голас, успадкаваны ёю ад маці-ўкраінкі, цяпер гучаў як голас цяжкахворага.

Суседзі ж прачнуліся толькі тады, калі полымя дабралася да шыферу, які пачаў трашчаць і страляць, разлятаючыся па баках ад палаючай хаты. Таму, калі на пажар прыбеглі першыя аднавяскоўцы, да хаты было ўжо не падступіцца.

— Ці пазваніў хто пажарнікам? — пачуўся голас суседа, дзеда Мірона.

— А як жа! — адказаў другі сусед, трактарыст Зычкін. — Ужо, мусіць, у дарозе.

Вяскоўцы адчувалі сябе бездапаможнымі перад стыхіяй. Раптам нехта ўспомніў, што трэба ратаваць адрыну, стайню і павець, якія па перыметры чатырохкутніка злучаліся з хатай дашчанымі платамі. І некалькі чалавек кінуліся ламаць тыя платы, якія пачалі загарацца.

— Людзі! Машку, Машку выведзіце! — успомніла Дар'я і



ўспляснула рукамі. — Божухны! За што ж такое пакаранне?!

Яна мітуслівa падбегла да павеці, у якой быў запас дроў на некалькі гадоў. «І каму яны цяпер спатрэбяцца, дровы гэтыя, нават калі і згараць», — падумала старая і памкнулася да хлеўчука, дзе ўжо біла капытамі па дзвярах і трывожна ржала кабыла Машка.

— Ратуйце Машку-у-у! — залямантавала старая. — Як жа мне без яе, Госпадзі?!

Калі быў жывы муж, сям'я мела і іншую жывёлу, але цяпер Дар'і Максімаўне давялося адмовіцца ад клопатнай гаспадаркі: не тыя ўжо гады, здароўе. Аднак расставацца з Машкай, сваёй нязменнай памочніцай, Дар'я Максімаўна не збіралася. Вельмі балелі ў гаспадыні ногі: артрыт кляты спакою не даваў. І шкада было скацінку надта: жывая душа ўсё ж такі!

Ды хто ж вінаваты ў тым, што надарыўся гэты пажар? Хіба не чалавек? Вось ён, чалавек, і павінен выратаваць Машку. Што ні кажыце, а Дар'я Максімаўна так прывязалася да жывёліны і так яе любіла, што іншым разам нават размаўляла з Машкай, а тая, бывала, нібыта ў знак згоды ці адабрэння, паварочвала да яе галаву, глядзела проста ў вочы, а тады ківала альбо круціла галавою. «Разумніца мая!» — радавалася старая.

А тым часам сусед Мірон прынёс абраз, падаў Дар'і Максімаўне.

— Божухны! — успляснула рукамі старая і прыняла абраз, прытуліла да сябе: гэта ж прасіла яна, каб Мірон паправіў яго, дзе-нідзе падрамантаваў, то браў учора да сябе дадому. — Божухны!..

Пакуль прыехалі з райцэнтра пажарныя, мужчыны разабралі платы, каб агонь не шугаў далей, выратавалі кабылку і курэй. Дар'я Максімаўна дала патрымаць абраз суседцы Лявонісе, каб надзець на сябе куфайку, і, знерваваная, доўга не магла патрапіць у рукавы, а тая спрабавала хоць неяк яе супакоіць-суцешыць:

— Тэлевізар, Дар'я, выратаваў цябе ад смерці. Згарэла б ты, мая мілая, разам са сваёй хатай, калі б спала тым часам. Можа, і мне варта гэтую скрыню купіць? А то ўсе лічаць мяне дзівачкай, адсталай ад жыцця: як гэта я без тэлевізара і радыё абыходжуся? Час, маўляў, сёння такі, што без гэтага аніяк нельга. А таго не разумеюць, што ад таго ў мяне баляць вочы і галава, хоць я яшчэ і не старая быццам. Але так і быць, куплю тэлевізар!..

— Купі сабе і тэлевізар, — ціха прамовіла Дар'я Максімаўна. — Твая справа. Толькі не тэлевізар мне жыццё ўратаваў, а вось гэты абраз Выратавальніка, які ты, Марыя, трымаеш у руках. Дай яго сюды. Вярні. Абраз павінен быць у мяне. І трэба ж было аддаць яго Мірону! Хай бы ў мяне і рамантаваў... Дык не — сама сябе і вінавачу... — Яна забрала ў суседкі абраз, прытуліла да грудзей. — Здагадваюся, ад чаго загарэлася хата — ад зламанага лічыльніка і электраправодкі. Учора ў лічыльніку штосьці патрэсквала. Мне б адразу ж і выклікаць электрыка, але забылася: памяць ужо не тая. А калі ёсць Бог, то не пакіне мяне пад голым небам. Не, не пакіне...

Суседка пагадзілася:

— Так-так, мая дарагая... Ёсць Бог, ёсць...

# Паэт і пераклады



Юры Гаўрук. Слуцк, 1928 г.

**Шостага мая споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Юркі Гаўрука — аўтара першай на Беларусі кнігі паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў» (1928). У лістападзе мінулага года адзначаўся стагадовы юбілей з дня нараджэння яшчэ аднаго вядомага беларускага перакладчыка — Язэпа Семяжона.**

Самы плённы перыяд у творчасці гэтых аўтараў — другая палова 1950-х — 1970-я гады. Ю. Гаўрук і Я. Семяжон перакладалі на беларускую мову В. Шэкспіра, Дж. Байрана, Г. Гейнэ, многіх іншых знакамітых творцаў. Аднак бібліяграфічны раздзел па творах Я. Семяжона ўдвая даўжэйшы за пералік выданняў і публікацый Ю. Гаўрука. Так выявілася розніца ва ўзросце, дый жыццёвыя шляхі перакладчыкаў значна адрозніваліся...

Юрка Гаўрук, як і Уладзімір Дубоўка, скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава, у 1925 годзе разам з Дубоўкам быў абраны дацэнтам кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. «І вось мы прыехалі ў Горкі. Дубоўка пахадзіў, паглядзеў, нешта яму там не спадабалася, і літаральна знік, паехаў у Мінск. Застаўся я адзін, як перст», — згадваў Юрка Гаўрук у кнізе «Ступень адказнасці» (1986).

Працаваць у сельгасакадэмію прыехаў Максім Гарэцкі, які меў добрыя стасункі з Гаўруком. На працягу трох гадоў пісьменнікі выкладалі разам. У гэты час з'явіліся першыя публікацыі твораў і перакладаў Ю. Гаўрука. Са студэнцкіх гадоў ён з'яўляўся членам літаб'яднання «Маладняк», але, мяркуючы па творах, не меў схільнасці да футурызму і не спяшаўся абвяргаць аўтарытэт старэйшых пісьменнікаў.

У невялікай першай кнізе «Вясковыя рыскі» (1926) Юрка Гаўрук распавядаў пра вандроўкі па слуцкіх вёсках — «каб даведацца годаў і нягодаў гэтага жыцьця, і як гэта ўсё адбіваецца ў сялянскай песьні». Байкі, жарты, песні, расповеды сялян, апісанні «няпышнага» вяселля і «вальцаў» у вясковым «магазыне» — шмат чаго патрапіла на старонкі Гаўруковага «трэвэл-блогу», вельмі падобнага да сучаснага студэнцкага дзённіка па фальклорнай практыцы. Паводле традыцыі, далучэнне да сялянскага жыцця і народнай творчасці — адзін з абавязковых этапаў для кожнага філолага-беларусіста. Юрка Гаўрук засведчыў спагаду да вясковцаў, разгубленасць перад адвечнай народнай крыўдай на жыццё, захапленне «хараством і беспасрэднасьцю сялянскае творчасьці». Так і мае быць. Але ў 1935 годзе паэт і перакладчык быў асуджаны і больш за дваццаць гадоў працаваў на Поўначы і ва Усходняй Сібіры.

Побач з «Баладай пра зоры» — «Жалобны марш», побач з «Паўночным агняцветам» — паэма «Развітанне з самім сабой»... Многія вершы Юркі Гаўрука распавядаюць пра высылку, але крыўда і смутак гучаць у радках часцей, чым роспач і злосць:

*Жыцця майго ўзвіхраны ветразь*
*Знікае ў вячэрняй імгле.*
*Пахмурнасць упала на светласць,*
*Утома ляжыць на чале.*
*О ноч, захавай маё гора,*
*Трывогу і боль заглушы!*
*Хвалюецца сэрца, як мора,*
*І крыўда рыдае ў душы.*

«А я думаў, што вы памерлі», — весела ўсміхнуўся Якуб Колас Юрыю Гаўруку ў 1946 годзе (так згадвае сустрэчу перакладчык). Народны паэт Беларусі быў чалавекам прынцыповым і падтрымліваў знаёмых, якім давялося апынуцца ў высылцы альбо страціць блізкіх людзей, прысуджаных да вышэйшай меры пакарання. Колас абнадзеіў перакладчыка, потым адказаў на ліст, дасланы з Комі АССР. «І стала восень для мяне вясною, / І песня абудзілася ў душы», — пісаў Юрка Гаўрук у вершы, прысвечаным паэту.



Кузьма Чорны (стаіць) разам з Юрыем Гаўруком, 1927 г.

Пасля рэабілітацыі Ю. Гаўрук працаваў памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, пісаў пра акцёраў і тэатральныя пастаноўкі. Маладзейшыя сябры — Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Арсень Ліс — згадвалі Ю. Гаўрука як чалавека шляхетнага, ад прыроды інтэлігентнага і вельмі працавітага. З 1960 па 1982 было выдадзена дзесяць кніг з яго перакладамі — творы Уільяма Шэкспіра, Эрнэста Хэмінгуэя, Фрыдрыха Шылера, іншых аўтараў... Па перакладах Гаўрука на беларускую мову былі пастаўлены многія п'есы. Магчыма, няпросты жыццёвы досвед часам дапамагаў яму ў творчай працы. Прынамсі, многія пераклады з апошняй кнігі («Узвіхраны ветразь», 1990), якая пабачыла свет пасля смерці Ю. Гаўрука, нібыта прысвечаны перажытаму самім аўтарам. Гэта і «Дойлiды» Дзмітрыя Кедрына, і «Песня пра жураўля» Геворга Эміна, і «Пасланне ў Сібір» Аляксандра Пушкіна.

У адным з артыкулаў, прысвечаных перакладчыцкаму майстэрству, Ю. Гаўрук згадваў наступны эпізод:

«...многія выдатныя перакладчыкі, паэты па прыродзе, не публікуюць уласных вершаў. У выдатнага піяніста Святаслава Рыхтэра неяк са здзіўленнем спыталі: чаму ён, з яго талентам, не займаецца кампазіцыяй? І ён адказаў прыблізна так: «На свеце столькі цудоўнай музыкі, што яе не праіграеш за ўсё жыццё, навошта ж разбаўляць вельмі добрае пасрэдным». Магчыма, менавіта такім ёсць крэда многіх людзей, якія працуюць у сферы культуры, але не заклапочаны стварэннем уласных шэдэўраў. Дзейнасць перакладчыка ўжо ёсць далучэннем да высокага мастацтва. І, вядома, хацелася б, каб пераклады Юркі Гаўрука былі максімальна запатрабаваны ў сучаснай культурнай прасторы Беларусі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Кветкі з яго палёў

З пачатку XX стагоддзя на Беларусі адбывалася пашырэнне духоўна-эмацыянальнага спектра, тэматычнага кругагляду беларускай паэзіі. Яна імкнулася да ўзбагачэння, стараючыся «выбраць у чужаземных паэтаў найбольш характэрнае», як пісаў ва ўступным слове да першай беларускай анталогіі перакладаў з замежнай класічнай паэзіі — «Кветкі з чужых палёў» (1928) — яе аўтар Юрка Гаўрук. У кнізе сабраныя найяскравейшыя прыклады англійскай, італьянскай, французскай, нямецкай і польскай паэзіі (усяго дваццаць аўтараў, між якіх Джордж Байран прадстаўлены пяцюю вершамі з цыкла «Яўрэйскія мелодыі»). У сваёй перакладчыцкай дзейнасці Ю. Гаўрук імкнуўся да дакладнага ўзнаўлення аўтарскага тэксту на роднай мове. У імкненні «паставіць належныя словы ў належнае месца» перакладчык дамагаўся таго, каб уражанне ад перакладу як арганізаванай сістэмы як мага больш адпавядала спецыфіцы арыгінала.

Як перакладчык Юрка Гаўрук не стамляўся працаваць над адной ці зробленымі перастварэннямі: даводзіў іх да ўласнага ўяўлення пра дасканаласць, дбаў пра адэкватнасць і стылёвую адпаведнасць. Амаль кожны з пераствораных Гаўруком вершаў атрымаў па некалькі рэдакцый. Руплівая праца перакладчыка бачная з першых спробаў перастварэння Дж. Байрана на беларускай мове. Напрыклад, пераклады 1926 года «Сцямнела на душы» і «Твой плач я бачыў» з цыкла «З яўрэйскіх мелодый», праз два гады надрукаваныя ў анталогіі «Кветкі з чужых палёў», маюць пэўныя рытміка-стылістычныя адхіленні ад арыгінала і адно ад другога.

Галоўны недахоп першага варыянта перакладу ў нерэгулярнай рыфмоўцы, якая часам з'яўляецца кальцавой, часам перакрыжаванай, а часам зусім не звязвае асобныя радкі. У пазнейшым перакладзе рэгулярна выкарыстоўваецца перакрыжаваная рыфмоўка. Заўважна, што з часам некаторыя хібы выпраўляюцца самім аўтарам перакладу. Але ў дадзеным выпадку першы варыянт у многім падаецца мацнейшым за другі. Ён характарызуецца большай рытмічнай стабільнасцю, лексічнай адпаведнасцю арыгіналу («brain» — «мозг», «heart burst» — «сэрца лопне», «long» — «доўга») і больш свежымі зваротамі («у песенным бяздонні» — замест «у моры песень»).

Даследчык Алесь Яскевіч сцвярджае, што «добры пераклад — гэта вельмі сур'ёзнае даследаванне не толькі ўсяго складанага комплексу паэтыкі аўтара, але і стыхіі мовы, з якой неабходна будзе перакладаць». Аднак перакладчыку недастаткова толькі валодаць мовай — важна адчуваць «інтанацыю арыгінала», якая нясе «інфармацыю аб творы ў цэлым». Каб перастварыць арыгінал, трэба мець «шырокі творчы далягляд»: мастацкія здольнасці, густ, вопыт і веды, умець адчуваць стыль арыгінала і інтэрпрэтаваць яго.

Такім чынам, для паспяховага выканання сваёй задачы аўтар перакладу павінен не толькі дасканала валодаць мовай арыгінала і той, на якую перакладае, але і ўмець «прыносіць ахвяры» і рабіць замены дзеля захавання галоўнага — эмацыянальнага ўздзеяння перакладаемага твора, што павінна адпавядаць уздзеянню арыгінала на іншамоўнага чытача. У дадзеным выпадку перакладчык спрашчае аўтарскі малюнак, дадае да байранаўскага шчырага захаплення ўласнае тлумачэнне і пэўны дыдактызм, які зніжае ўражанне ад твора ў перакладзе.

Аднак нельга папракнуць Ю. Гаўрука ў няўважлівых адносінах да арыгінала. Па яго ўласным прызнанні: «Перакладанне паэзіі — не імправізацыя, а безупынныя і часам вельмі пакутлівыя пошукі паэтычнага эквіваленту [...]. Удалы пераклад — гэта не пераайманне, а твор жывы, шмат у чым самастойны. Не замяняючы арыгінала, ён як бы стаіць побач з ім, можа з некаторымі стратамі, але і са сваімі добрымі знаходкамі. Ён не толькі дае інфармацыю аб пэўнай паэтычнай з'яве, а робіць гэту з'яву нацыянальным набыткам, спрые развіццю роднай мовы, узбагачае літаратуру [...]. У спаборніцтве за якасць, мне думаецца, перакладчык такія ж паўнапраўныя ўдзельнікі, як і аўтары».

Найбольш удалым у шэрагу перакладаў з Дж. Байрана, выкананых Ю. Гаўруком у пачатку XX стагоддзя, можна назваць верш «Прычытанні Ірада над Марыямнай». У ім дакладна выконваецца прынцып эквірытмічнасці: чатырохстопны ямб з перакрыжаванай рыфмоўкай з паслядоўным чаргаваннем мужчынскіх і жаночых рыфмаў, што адэкватна перадаецца ў перакладзе. Галоўнае ж — добра перададзены роспачны настрой лірычнага героя, падкрэслены адпаведным байранаўскім сінтаксісам.

*Яе забілі? — Не маглі*
*Стрымаць шалёнага раўнўца?*
*Свой гнеў я ў роспачы спалю,*
*Разбіўшы, сам хачу разбіцца.*

*Халодная ляжыць яна,*
*Здаецца ўсё такім варожым.*
*Схацеўшы, лёгка раз'яднаць,*
*Але з'яднаць ніяк не можам.*

Прычынай перакладчыцкіх хібаў у першай трэці XX стагоддзя была як адсутнасць беларускай перакладчыцкай школы, так і ўплыў на айчынных перакладчыкаў рускамоўнай перакладчыцкай традыцыі, а таксама значная аддаленасць англійскай і беларускай моў. Станоўчым было тое, што перакладчыкі руплiва ставіліся да справы, перапрацоўвалі пераклады, стылістычна набліжалі іх да арыгінальных твораў. Пераклады Ю. Гаўрука канца 1920-х гадоў сталі фактам беларускай паэзіі, хаця ў большасці выпадкаў рашэнні былі хутчэй інтуітыўнымі, чым свядомымі. Наогул, пераклад (у тым ліку і пераклад з Байрана) у пачатку XX стагоддзя заклаў аснову для развіцця нацыянальнай літаратуры.

**Таццяна СІВЕЦ**

# Час для кахання

## CHERCHEZ LA FEMME

Напэўна, самае прадказальнае, што можна чакаць ад жанчыны-празаіка, — гэта нескладаная сентыментальная гісторыя пра няспраўджанае каханне. Але з-пад пяра жанчыны, вядома, можа выйсці і твор, варты большай павагі. У рамане Ірэн Неміроўскі «Іезавіль», аповесці Ларысы Калужэнінай «Апошняя камандзіроўка», апавяданні Кацярыны Карповіч «Вогненны вецер Эль-Паса» таксама нямала няспраўджанага кахання, але больш істотным, на шчасце, апынаецца іншае... Творы розных жанраў з красавіцкага нумара «Нёмана» абраны для супастаўлення, каб вылучыць тое агульнае, што робіць іх цікавымі для чытача.




Раман Ірэн Неміроўскі друкаваўся ў рубрыцы «Сусветная літаратура» ў «Нёмане» (пачатак — № 2, 2015) у перакладзе Ігара Найдзёнкава. Ірэн Неміроўскі (1903 — 1942) — французская пісьменніца, дачка эмігрантаў з Расіі. Скончыла філалагічны факультэт Сарбоны, у 1930-я гады была вельмі папулярным аўтарам, за дзесяць гадоў апублікавала дванаццаць раманаў. Аднак у 1942 г. яна была арыштавана як «асоба яўрэйскага паходжання без грамадзянства» і неўзабаве вывезена ў Асвенцым. Самы вядомы сёння твор Ірэн Неміроўскі — раман «Французская сюіта», напісаны ў апошні год жыцця. Але раман «Іезавіль» варты не меншай увагі...

## АЗДОБІЦЬ БЛЯСКАМ

Калі пісьменнік сумна піша пра тыповую дзяўчыну з шэрымі вачыма, якая вяртаецца з працы ў тыповым трамваі, а потым п'е шэрую гарбату і глядзіць тыповае кіно, то ў пэўны момант абавязкова павінна здарыцца нешта незвычайнае — інакш чытачу будзе вельмі сумна. Яркія фарбы ў апісанні рэчаіснасці заўсёды на карысць мастацкай прозе. Дзякуючы экзатычным дэталям і нестандартным сітуацыям творы красавіцкага «Нёмана» адразу выклікаюць цікавасць.

«Апошняя камандзіроўка» і «Вогненны вецер Эль-Паса» ўжо сваімі загалоўкамі абяцаюць замежную экзотыку. У аповесці згадваецца некалькі дзясяткаў розных мясцін: героі жывуць у Парыжы і Смаргоні, ездзяць на Афон і ў Хатынь, працуюць у Бостане, Мінску, невялікай Твінейскай вёсцы. Усе без праблем вандруюць па шырокім свеце, знаёмяцца з асаблівасцямі і традыцыямі розных народаў:

«Я быў вельмі збянтэжаны, амаль расцiснуты жахам шматлікай інфармацыі, і калі б не заўвага гіда пра тое, што ў Хатыні плакаў нават сам Ніксан, зусім бы захварэў (...)

— Як! — ледзь не крыкнуў я, — як гэта для вас меркай каштоўнасці ўспрымання з'яўляецца меркаванне нейкага прахаднога амерыканскага палітыка?

Як гэта магчыма?!

Не, я не разумеў гэтых людзей і вырашыў, што ніколі іх не зразумею», — разважае галоўны герой «Апошняй камандзіроўкі» Коста падчас экскурсіі ў спаленую вёску.

У апавяданні К. Карповіч геаграфічная прастора больш вузкая: Падмаскоўе — Нью-Ёрк — Мадрыд. Рознае грамадзянства робіцца прычынай расстання закаханых: паўстагоддзя таму межы паміж краінамі мелі немалую значнасць, і не было ніякай магчымасці «гадзінамі балбатаць па скайпе з Афінамі, з Філадэльфіяй і Парыжам».

Раман І. Неміроўскі прываблівае апісаннем жыцця вышэйшага свету даваеннай Еўропы. Балі, сукенкі, упрыгожванні, галантныя адносіны і жахлівыя таямніцы — цяжка ўявіць жанчыну, якая застанецца абыякавай да гэтай раскошы. Менавіта на прыгожую палову чалавецтва і разлічвала аўтарка, калі пісала пра вечную жаночую мару назаўсёды захаваць хараство і небяспечнае захапленне пачуццёвымі і цялеснымі радасцямі. Раман распачынаецца сцэнай суда над галоўнай гераіняй, якая ў сваім доме забіла маладога студэнта. З такім пачаткам незвычайная гісторыя гарантавана!

## ГЕРАІНЯ: ПРЫВАБНАЯ І ТАЯМНІЧАЯ

Жанчыны-пісьменніцы значна часцей, чым іх калегі мужчыны, ствараюць персанажаў, з якімі можна адчуваць сябе камфортна. У першую чаргу гэта выяўляецца ў выбары галоўнай гераіні — верагодна, асобы прыемнай для аўтаркі і чытача: прывабнай знешне, ахайнай, з добрым характарам і багатым духоўным светам. Менавіта так апісваюць сябе жанчыны ў аб'явах для знаёмства «з мэтай стварыць сям'ю». Пару гераіне складае мужчынскі персанаж, таксама надзелены пераважна дадатнымі характарыстыкамі. Але ідэальных людзей няма, таму неідэальнаму чытачу нецікава заўсёды мець перад вачыма толькі ўзорных асоб.

Вядома, герой можа быць крыху буркатлівым, затое адукаваным паважаным чалавекам і ў дадатак французскім дыпламатам альбо таленавітым калумбійскім мастаком. А гераіня можа падавацца «праставатай», затое яна здольная кахаць пасапраўднаму і адчувае абранніка праз гады і кіламетры (як у «Апошняй камандзіроўцы»).

Галоўным героям даводзіцца быць у нечым незвычайнымі — бо менавіта з імі адбываецца незвычайная гісторыя. Напрыклад, Марына Галадок з «Вогненнага ветра...» — цыркавая артыстка, якая падчас гастроляў застаецца ў ЗША, а ў семдзесят тры гады вяртаецца ў стары бацькоўскі дом. У «Апошняй камандзіроўцы» незвычайным паўстае само каханне паміж французскім дыпламатам Костам (графам Канстанцінам Шэрэмецьевым) і прыгожай супрацоўніцай Гандлёвай палаты Ташай, родам са Смаргоні.

Пара прывабных герояў знаходзіцца ва ўсіх трох творах, але ў рамане І. Неміроўскі гэта другасныя персанажы. Іх нешчаслівы лёс падкрэслівае злачыннасць галоўнай гераіні — даследаванню яе ўнутранага свету і прысвечаны твор. Многія жанчыны імкнуцца падабацца мужчынам, але апантанасць гэтай мэтай набліжае да паталагічнага стану. Глэдзіс Эйзенах робіць усё магчымае, каб выглядаць маладзейшай на дзесяць-пятнаццаць гадоў, але нічога так не сведчыць пра ўзрост жанчыны, як наяўнасць замужняй дачкі ці дарослага ўнука. Па збегу абставін яна апынаецца віннай у іх смерці — і пісьменніца падрабязна апісвае надзеі, роздумы, перажыванні, пачуцці гераіні:

«Уночы Глэдзіс не магла заснуць, у яе білася сэрца і ў галаве бясконца пракручваліся адны і тыя ж думкі: «Я прыгожая, прыгожая, нягледзячы ні на што... Іншай такой жанчыны ён ніколі не знойдзе... Гэта няпраўда, што мне шэсцьдзясят, я па-ранейшаму маладая! Мне няма шасцідзесяці, гэта немагчыма! (...) Хай мяне назавуць брыдкай, хлуслівай, але толькі не смешнай!.. Хай я буду лічыцца пачварай, але я не хачу, каб мяне называлі бабуляй, не хачу лічыцца закаханай старой!»

Істотна, што галоўныя персанажы рамана, аповесці і апавядання — людзі немаладыя, якія паўстаюць як асобы з багатым мінулым, а не тыпізаваныя дзяды-бабулі. Коста ва ўзросце прадзеда марыць пра сына ад Ташы, вогненны вецер кахання гэтаксама, як у далёкай маладосці, ахоплівае мастака і цыркавую артыстку. Здольнасць кахаць робіцца для герояў своеасаблівай узнагародай за прадуктыўнае жыццё, а вось прыгажуня Глэдзіс дакладна прайграе змаганне з часам.

## НА СУД ГІСТОРЫІ

У мастацкай прозе часта апісваюцца падзеі, якія адбываюцца ў розны час. Аўтар у першую чаргу распавядае пра пэўны перыяд жыцця героя і можа зусім не паглыбляцца ў апісанне гістарычнай эпохі. Але Л. Калужэніна і К. Карповіч выяўляюць час у тым ліку ў грамадскапалітычным аспекце. І чытач, для якога гэта істотна, чакае на наступнай старонцы апісання нью-ёркскіх вуліц сярэдзіны XX стагоддзя ці новых роздумаў пра Беларусь пачатку 1990-х. Адна справа — даведацца, што адбывалася ў дзяцінстве прыдуманага героя, іншая — паглядзець вачыма еўрапейскіх дыпламатаў на сваю краіну, якой толькі споўніўся год.

У сусветнай літаратуры нямала твораў, дзе галоўны герой альбо вяртаецца ў знаёмыя мясціны, альбо з'яўляецца замежнікам і староннім позіркам акідвае жыццё пэўнай краіны. Калі між героем і рэчаіснасцю, у якую ён трапляе, ёсць адлегласць, то ўспрыманне будзе ў любым выпадку не банальным. Чытач наўрад ці спрабаваў уявіць, як ставяцца да мясцовых падзей у замежных пасольствах, і аповесць Л. Калужэнінай робіцца добрай магчымасцю паглядзець на свой народ збоку.

У апавяданні «Вогненны вецер...» халодная вайна між Захадам і Савецкім Саюзам — прычына жыццёвых нягод гераіні: артыстка не паспявае на самалёт разам са сваёй трупай і больш ніколі не сустракаецца з бацькамі. Выпадковасць ператварае яе амаль у «ворага народа»...

Проза І. Неміроўскі вяртае чытача прыкладна ў 1936 год — час напісання «Іезавіль». З першых старонак твор падаецца звычайным «жаночым раманам», але яго галоўная ідэя апынаецца надзвычай значнай на пачатку XXI стагоддзя. Якіх выдаткаў вартыя высілкі смяротнага чалавека, каб захаваць прывабнасць і працягнуць маладосць? Ці не лепш замест клопатаў пра ўласную прыгажосць агледзецца навокал і дапамагчы тым, хто жыве ў нястачы? Наколькі небяспечны эгаізм для асобнага чалавека і для чалавецтва наогул? Французская пісьменніца закранае ў рамане нямала пытанняў, актуальных для сучасных прыгажунь і асоб з «вышэйшага свету». І калі твор, напісаны восемдзесят гадоў таму, становіцца цікавым для чытача іншай культуры, гэта сведчыць пра безумоўную пісьменніцкую ўдачу, якую можна пажадаць і іншым аўтарам «Нёмана»!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Паланянка адзіноты

Выпусціць свае думкі на волю ў выглядзе вершаў — добры спосаб псіхалагічнага катарсісу. Калі няма каму выслухаць, папера заўсёды прыйдзе на дапамогу. Але ці варта казаць пра ўсё набалелае, калі пішаш уласную кнігу, прызначаную для чытачоў, якія цябе не ведаюць? Зборнік «Вечная вясна» Вольгі Данілавай, што выйшаў у серыі «Маладая паэзія Беларусі», радуе шчырасцю, але не здзіўляе глыбінёй.

Лейтматыў кнігі — палымяныя зоркі, сімвал надзеі і, адначасова, адзіноты. Яны сустракаюцца амаль што ў кожным трэцім вершы: «ззяюць над абшарамі вечных палёў», сочаць за зямлёю, падаюць і знікаюць у жыце, самотна свецяць у прыцiхлым парку.




Вольга Данілава дае адсылкі да фальклору, стылізуе многія вершы пад песні мінулага пакалення, што спяваліся на полі, ля рэчкі, на вячорках. Многія з іх — пра жаночую долю.

Лірычная гераіня Вольгі Данілавай, між іншым, — князёўна, што чакае свайго нарачонага, а ён дзесьці на вайне і ўсё не вяртаецца... З той жа нагоды і верш: «У снах маіх — замкі старыя».

Шмат увагі надае аўтар прыродзе, быццам назірае за ёй увесь час, з ранку да глыбокай ночы. Часта Вольга Данілава ўзгадвае кветкі і дрэвы: пралескі, півоні, незабудкі, бярозы, што тонуць у сонечным золаце, яблыні, азароныя месяцам, рабіну ў чырвоным россыпе. Метафары прыгожыя, але не заўсёды зразумелыя.

Паэтэса шмат марыць, паглыбляецца ў сябе, аналізуе нават уласную падсвядомасць — сны: «Так атрымалася, што мне / Наканавана жыць у сне, / Сярод самотных ведзьмакоў / Прыгожых вобразаў і слоў». Цяга да самарэфлексіі праяўляецца і ў іншых радках, што больш нагадваюць паведамленне, чым верш: «Каб толькі ведаў хто, / Як гэта цяжка / — Быць мне ў адзіноцтве / Закаханай у твой голас... / Я стомлена гляджу / У вячэрняе акно...» Куды ж без няспраўджанага кахання?

Ёсць і вельмі трапныя вобразы: «Чорная птушка вечнай самоты / Хоча напіцца з далоняў тваіх. / Ты закаханая. Плачаш употай. / Слёзы хаваеш у песнях вясны». Калі б аўтар больш папрацавала над стылем, вершы чыталіся б на адным дыханні і зусім не зацягвалі ў сонную бездань «адчаю, прыхаванага ў прыцемку дажджу».

Адзін з самых важных матываў у зборніку, — лістапад. «Падаюць стамлёныя лісты, / Лістапад нам спапяляе сэрцы. / Страх святла. Шматслоўнасць нематы, / Бессмяроцце ў вечнай празе смерці», — вельмі ўдала заўважае ў адным з вершаў Вольга Данілава.

Крыху выбіваюцца (у добрым сэнсе) з агульнага лірычнага і вельмі асабістага кантэксту вершы «Студэнцкі гімн» і «Мой самотны, мой адзіны» — пра любоў да краіны, «непаўторнай» і «самай светлай».

Увогуле, зборнік «Вечная вясна» не зусім адпавядае сваёй аптымістычнай назве. Усё ж такі больш у ім сумных разважанняў, бязмерный адзіноты, хаця і выключэнні ёсць.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Каб продкі прачнуліся

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

— Асноўная задача шлема — абараніць воіна. Але ва ўсе часы майстры стараліся шлемы і даспехі ў цэлым нейкім чынам упрыгожыць, зрабіць іх выгляд больш прывабным, — распавядае адзін з заснавальнікаў майстэрні «Сталёвая спадчына» скульптар Канстанцін Дудараў. — Натуральна, што з развіццём тэхнічных магчымасцей эстэтыка даспеха станавілася больш скрупулёзнай і прэтэнцыёзнай.

У экспазіцыі прадстаўлены і звычайныя баявыя шлемы, і багата ўпрыгожаныя, як шлем Мікалая Радзівіла Чорнага. Такія нагалоўі насілі надзвычай заможныя людзі.



Фрагменты экспазіцыі «Баявыя нагалоўі і харугвы беларускіх зямель XI — XVII стст.».

— Знакаміты гарнітур Мікалая Радзівіла Чорнага, частка якога з'яўляецца ўзноўлены намі шлем, — адзін з самых цікавых момантаў развіцця тагачаснай даспешнай справы. Ён характарызуецца не толькі складаным тэхнічным выкананнем, але і багатым аздабленнем золатам, срэбрам, эмалямі, — падкрэслівае Канстанцін. — Гэты шлем быў выраблены майстрам Кунцам Лохнерам у 1555 годзе. А сам гарнітур, падораны Мікалаю Радзівілу Чорнаму, апроч асноўнага даспеха ўключаў цэлы шраг прыстасаванняў для розных тыпаў бою, турніраў, пешых і конных паядынкаў. У ім быў нават даспех для каня! Многія элементы гарнітура сёння захоўваюцца ў розных музеях свету. Асноўная частка знаходзіцца ў Вене, некаторыя элементы трапілі ў Музей арміі ў Парыжы, а некаторыя дэталі — у Метраполітан-музей у Нью-Ёрку.

Разам з тым ёсць і дэталі даспеха Мікалая Радзівіла Чорнага, якія лічацца страчанымі. Вядомы даследчык узбраення, доктар гістарычных навук Юрый Бохан правёў цэлае даследаванне: вывучыўшы архівы, ён склаў схему, у якой прадстаўлена элементы, што захаваліся, і згубленыя часткі. Кіруючыся гэтымі напрацоўкамі, майстры са «Стальной спадчыны» раней узнавілі маніфер — турнірную пальчатку, якая адзявалася зверху на звычайную латную рукавіцу. Гэтая рэканструкцыя сёння знаходзіцца ў калекцыі Замкавага комлексу «Мір». І, па сутнасці, шлем стаў новым крокам ва ўзнаўленні страчаных частак знакамітага гарнітура.

— Па выніках даследаванняў Юрыя Бохана можна меркаваць, што ў даспехавым гарнітуры Мікалая Радзівіла Чорнага было некалькі шлемаў, — значае Канстанцін: шлем тыпу бургіньёт з закрытым тварам і два армэты, больш цяжкія кавалерыйскія нагалоўі. Мы рэканструявалі адзін з армэтаў. Сам па сабе гэта вельмі цікавы шлем, ён досыць складаны ў канструкцыі, а ў XVI стагоддзі выкарыстоўваўся ў якасці як баявога, так і турнірнага нагалоўя. Натуральна, пры рэканструкцыі гэтага элемента даспеха давялося і пафантазіраваць. Мы прытрымліваліся агульных канонаў, стылістыкі гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага, якія вывучалі па розных матэрыялах. Усе прадметы, што ў яго ўваходзілі, былі аднолькавымі па стылі. Яны, як часткі канструктара, змянялі адзін аднаго, але цэльнасць даспеха пры гэтым захоўвалася.

За аснову для рэканструкцыі шлема было ўзята нагалоўе, што захавалася і знаходзіцца ў Вене. Яго можна класіфікаваць як бургіньёт — гэта больш позні тып шлема, больш лёгкі, чым армэт, узнаўленне якога прадстаўлена на выстаўцы ў Мірскім замку. Сам корпус бургіньёта падобны да корпуса армэта, толькі ў апошнім адсутнічае своеасаблівы казырок. Майстрам патрэбна было аднавіць канструкцыю двухскладовага забрала, а таксама абарону патыліцы і шыі.

Праца па ўзнаўленні шлема Мікалая Радзівіла Чорнага заняла ў майстроў больш як паўгода. Гэта надзвычай складаны працэс. Спачатку трэба было вырабіць нагалоўе ў метале, затым нанесці малюнак, зрабіць траўленне, залачэнне, серабрэнне, пакрыццё эмалямі. На пытанне пра магчымасць цалкам аднавіць знакаміты радзівілаўскі гарнітур Канстанцін адказвае з усмешкай:

— Натуральна, мы пра гэта марым. Але разумеем, што праца вельмі доўгая і складаная як з тэхнічнага, так і з юрыдычнага боку. А выраб даспеха для каня — увогуле з галіны фантастыкі.

Але не толькі шлемы пабачаць наведвальнікі на выстаўцы. У межах экспазіцыі прадстаўлены таксама два поўныя даспехі. Гэта даспех 1530 года, за аснову якога быў узяты гарнітур з англійскага Лідса (ён упрыгожаны рэнесансным арнаментам — у стылі таго часу), і даспех крылатага гусара, вельмі распаўсюджаны на беларускіх землях у XVII стагоддзі. Таксама ў экспазіцыі ёсць дзіды і харугвы нашых продкаў. Самая ранняя з харугваў — так званая «пруская», датуецца XIII — XIV стагоддзямі. Самая позняя — харугва Менскага ваяводства XVII стагоддзя, адрозніваецца вельмі вялікім памерам і займае практычна ўсю сцяну.



Рэканструкцыя страчанага шлема Мікалая Радзівіла Чорнага, 1555 г.

Выстаўка «Баявыя нагалоўі і харугвы беларускіх зямель XI — XVII стст.», падрыхтаваная майстэрняй «Сталёвая спадчына», уражвае не толькі напаўненнем, але і прадстаўленнем матэрыялу. Як зазначыў Канстанцін Дудараў, проста экспазіцыю рэчаў у шкляных шафах было рабіць нецікава, таму вырашылі больш сучасна і крэатыўна прадставіць матэрыял. Зрабілі адмысловае асвятленне для шлемаў, якое і стала асноўным акцэнтам.

Калі чалавек заходзіць у залу, дзе нікога няма, усе тумбы ў паўзмроку асветленыя чырванаватым колерам. Наведвальнік набліжаецца да першага шлема — патрэбна аглядаць экспазіцыю па гадзіннікавай стрэлцы, прасочваючы храналогію развіцця мастацтва вырабу нагалоўяў — і спрацоўвае датчык руху: чырвонае святло гасне, запальваецца белае, якое вылучае прадмет з паўзмроку.

— У кожнага могуць узнікаць свае асацыяцыі, — разважае Канстанцін, — нібыта продкі заснулі стагоддзі таму, але варта пра іх успомніць, — і яны ажываюць. Выдатна, калі чалавек атрымлівае не проста сухія факты па храналогіі, але і развівае вобразнае мысленне, трапляе ў адмысловую атмасферу. Думаецца, у нас гэта атрымалася, хоць было вельмі няпроста рэалізаваць задумку ў тэхнічным аспекце. Патрэбна было распрацаваць адмысловую электрычную схему, якая адключала б адно святло і ўключала іншае, каб датчык спрацоўваў на два дзеянні. Гэтую працу правёў таленавіты майстар Генадзь Баўтот. Стойкі, на якіх размешчаны шлемы, таксама маюць незвычайную форму. Перад наведвальнікамі не проста чатырохвугольныя тумбы, а трохвугольныя прыстасаванні, што нагадваюць вежы замкаў.

Спадзяюся, наведвальнікі выстаўкі «Баявыя нагалоўі і харугвы беларускіх зямель XI — XVII стст.», якая зараз праходзіць у Мірскім замку, не будуць расчараванымі ні зместам, ні варыянтам прадстаўлення прадметаў. Экспазіцыя працуе да канца верасня. Затым майстры са «Стальной спадчыны» плануюць прадставіць выстаўку ў Нясвіжы, Мінску, іншых гарадах краіны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Прыцягненне радзімы

Семінар «70 год Вялікай Перамогі» для журналістаў з Расіі, Латвіі і Эстоніі адбыўся 5 мая ў Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Прадстаўнікі СМІ арганізацый суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой, прыбылі ў Мінск у межах XIX Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі».

Мадэратарам мерапрыемства выступіў дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ Сяргей Дубовік. Паводле яго слоў, журналісту на Беларусі зрабіць кар'еру нескладана — дастаткова быць мэтанакіраваным, працавітым і амбіцыйным.

«Спецыялісты з іншых краін, якія нарадзіліся ў Беларусі, ганарацца сваім паходжаннем. Сёння на постсавецкай прасторы Беларусь вельмі шануюць і паважаюць», — адзначыў Сяргей Дубовік.

Ён адзначаў, на журфаку шмат замежных студэнтаў, асабліва з Кітая: некаторыя з іх умеюць і песні беларускія спяваць. Аднак не хапае адказных і таленавітых кадраў, асабліва ў раённых газетах. «Той, хто працуе ў друку, на радыё або тэлебачанні, павінен разумець, што ў яго руках — летапіс сучаснасці», — дадаў дырэктар Інстытута журналістыкі.

У ходзе семінара галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец распавяла пра тэму вайны і Вялікай Перамогі на старонках літаратурнага выдання. «Мы пішам дзеля будучыні, моладзі нашай. Шмат артыкулаў у газеце «Літаратура і мастацтва» прысвечана творцам, якія прайшлі ваенныя пакуты. На жаль, не ўсе з іх вярнуліся з вайны. Многія пісьменнікі загінулі зусім маладымі, і можна толькі ўявіць, колькі страціла беларуская літаратура. Сёння мы знаходзім праўду пра вайну ў іх рукапісах, дзённіках, кнігах. У рэдакцыю прыносяць свае ўспаміны і тыя, хто выжыў, дзеці вайны», — паведаміла Таццяна Сівец.

Галоўны рэдактар звярнула ўвагу і на тое, што тэма суайчыннікаў з іншых краін у газеце «Літаратура і мастацтва» прысутнічае, але сувязі варта пашыраць.

Пра што ж распавядалі самі госці? Член праўлення беларускага нацыянальна-культурнага таварыства «Сябры» Людміла Аннус з горада Нарва ў Эстоніі адзначыла: «Дзень Перамогі — добрая нагода ўспомніць, што мы — беларусы, якія па волі лёсу трапілі ў іншую краіну. Я жыла ў Мазыры, затым у Светагорску, вучыла заўсёды толькі рускую мову, а цяпер — хто б мог уявіць, — працую ў беларускім нацыянальна-культурным таварыстве. На радзіму заўсёды еду па глыток паветра. Таму такія сустрэчы, як сёння, для мяне — сапраўднае свята!».

Намеснік старшыні праўлення беларускага нацыянальна-культурнага таварыства «Сябры» Віктар Байкачоў падкрэсліў, што на Беларусі вельмі моцная памяць пра Перамогу: «Я часта кажу ў Эстоніі, што беларусы — самы міралюбівы народ. Трагедыя вайны ў гэтай краіне ніколі не паўторыцца».

Карэспандэнт газеты «Прамень» і інтэрнэт-партала «Наша Ліепая» Валянціна Грыбоўская падкрэсліла, што «беларуская грамада ў Ліепаі кожны год святкуе 3 ліпеня як святы дзень вызвалення радзімы».

У тым, што тэма вайны з'яўляецца часткай свядомасці беларусаў, упэўнены і прафесар Інстытута журналістыкі БДУ Алег Слука. «Адкрыю перад вамі два цуды. Першы — тых людзей, якія адстаялі свабоду сваёй краіны, другі — нас, сучасных грамадзян, якія пабудавалі дзяржаву з руін. Вайна для беларусаў сёння — гэта не толькі памяць пра пакуты, а цэлая ідэалогія імкнення да міру. Мы стараемся ствараць, а не разбураць. Гэты прынцып тычыцца ўсіх сфер развіцця беларускай дзяржавы: ад эканомікі да культуры. Я не хадзіў у атаку: у 1940-я гады быў яшчэ зусім маленькі. Калі сыпаліся фашысцкія кулі, думаў, што гэта град. Але ўцалеў: дзякуючы таму, што на руках мяне насіла мама. Такую гісторыю могуць распавесці многія. Хіба гэта можна забыць?»

У працы семінара ўзялі ўдзел таксама дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі БДУ Ганна Басава, галоўны рэдактар газеты Саюза беларусаў Латвіі «Прамень» Леанід Шакавец, рэдактар інтэрнэт-сайта «Уздым» з горада Даўгаўпілса Людміла Сінякова, аглядальнік газеты «Цюменская вобласць сёння» Маргарыта Шаманенка.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*



Кніжны свет

15 мая 2015 г.

# Дарогі блізкія, далёкія

**Нядаўняя паездка ў Кітай, наведванне гарадоў Пекін, Ланьюнган і Сюйчжоу склалі некаторыя ўражанні пра вялікую і багатую краіну, пра яе культурныя зносіны з іншым светам. Ці не згубілася ў гэтых стасунках Беларусь? Ці да вядомых гістарычных фактаў зносін у галіне мастацтва і культуры сёння што-небудзь дадаецца? Які ж прагноз: ці будзе нешта дадавацца заўтра? І ўвогуле — наколькі цікавая Беларусь, беларусы кітайскаму свету?**

Сам візіт старшыні КНР Сі Цзіньпіня ў значнай ступені дае адказ на гэтае пытанне. Так, цікавая Беларусь Кітаю, цікавая з розных пунктаў гледжання. І з арганізацыі Эканамічнага пояса Вялікага Шаўковага шляху — таксама. Будаўніцтва беларуска-кітайскага індустрыяльнага парка «Вялікі Камень» — таксама ў пэўным сэнсе адказ на гэтае пытанне.

А што ж да культуры... І да культуры таксама ёсць цікавасць. Інакш не былі б наладжаны Дні культуры Беларусі ў КНР. Завяршыліся яны літаральна ў пярэдадзень візіту Сі Цзіньпіня ў нашу краіну.

Мне давялося сустракацца з кіраўніцтвам цэнтра культуры Беларусі, які працуе ў 2-м Пекінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце — спадарынямі Чжан Хуэйцінь і Ляа Мяа. Дарэчы, у Кітаі два такія цэнтры. Другі — у адной з ВНУ ў Шанхаі. І калі кіраўнікі «беларускіх цэнтраў» вялі гаворку больш пра мяркуемае адбыцца ўваходжанне ў беларускую праблематыку, пра планы, задумкі, то сустрэча з перакладчыкам і мастаком-каліграфам Гаа Манам прынесла велізарнае задавальненне ад усведамлення, што ў прасоўванні беларускай культуры ў Кітай зроблена шмат. У прыватнасці, сам Гаа Ман, які доўгі час рэдагаваў часопіс «Сусветная літаратура», пераклаў на кітайскую мову зборнік вершаў Максіма Танка (сумесна з Гэ Баацюанем) і кнігу дакументальнай прозы Святланы Алексіевіч. А яшчэ напісаў цэлы шэраг артыкулаў пра беларускую літаратуру і беларускае мастацтва. Яшчэ больш уразіла размова з генеральным дырэктарам Кітайскага таварыства па калектыўным кіраванні аўтарскімі правамі на літаратурныя творы Чжан Хунба. Ён папрасіў называць яго Алегам.

— Я ўжо адкрыў для сябе Беларусь у час XXII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу ў лютым гэтага года. Дарэчы, прывёз з Мінска велізарны партфель кніг. Партфель — гэта вобразна. На самай справе — скрыню. Сярод іх і раманы старшыні вашага пісьменніцкага Саюза Мікалая Чаргінца, — заўважыў кітаец Алег, — і цяпер буду мэтанакіравана развіваць увагу да беларускага кніжнага рынку. У нас ёсць што прапаноўваць да выдання. Ёсць сучасныя пісьменнікі, чые творы выдаюцца ў дзясятках краін. Агульны тыраж — мільёны экзэмпляраў. Але ж і беларускія аўтары нам цікавыя. Мы ведаем па ранейшых кнігах пісьменнікаў з Беларусі, выдадзеных на кітайскай мове, што для вас заўсёды была актуальнай тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма барацьбы савецкага і беларускага народа з нямецкімі фашыстамі. А зараз? Ці піша пра гэта моладзь?

Мы доўга гаварылі з Алегам — спадаром Чжан Хунба пра сучасную беларускую літаратуру, пра прадаўжальнікаў традыцый вядомых у Кітаі Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Святланы Алексіевіч... Кітайскага арганізатара выдавецкага працэсу хвалявалі і тэмы, і жанры. Ён цікавіўся, ці можам мы што прапанаваць кітайскаму тэатру.

Гісторыя сучасных беларуска-кітайскіх літаратурных зносін была б няпоўнай без асвятлення дзейнасці, навуковых вышукаў прафесара Пекінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта спадарыні Ся Чжунсянь. На сустрэчу яна прыйшла са сваёй аспіранткай Ду Цзяа, якая піша дысертацыю па творчасці Івана Буніна, і дзеля таго, каб быць праніклівай у сваіх высновах, з'ездзіла нават на радзіму лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў Расію. А як жа з зацікаўленнямі беларускай мастацкай літаратурай?.. І хаця часопіс, галоўны рэдактар якога Ся Чжунсянь, і называецца «Руская літаратура і мастацтва», ва ўніверсітэце і на старонках выдання надаецца ўвага і беларускай літаратуры, беларускай культуры. Не так даўно ў гэтым выданні быў надрукаваны артыкул пра творчасць Максіма Багдановіча. Змешчаны былі ў часопісе і ілюстрацыі Георгія Паплаўскага да аднаго з твораў Васіля Быкава. З зусім нядаўніх публікацый — рэцэнзія на кнігу «Кітай вачыма беларусаў», якая выйшла ў выдавецкім цэнтры БелТА ў Мінску.

— Нам цікавая беларуская літаратура як адна з частак агульнай постсавецкай прасторы, — гаворыць спадарыня Ся Чжунсянь. — Мы ў свой час шмат увагі надавалі савецкай літаратуры. І зараз наш чытач ваш свет памятае і нават спрабуе патлумачыць яго праз прызму твораў і вобразаў, створаных мастакамі слова ранейшых дзесяцігоддзяў. Як з'явай уяўляецца руская літаратура XIX стагоддзя (Пушкін, Лермантаў, Талстой, Дастаеўскі, Тургенеў, Чэхаў), так шматаблічнай з'явай бачыцца нам і савецкая літаратура. Агульную карціну вашага жыцця мы ўяўляем па кнігах Міхаіла Шолахава, Барыса Васільева, Ганны Ахматавай, Юрыя Бондарава...

Кітай багаты і бязмежны не толькі сваёй эканомікай, тэрыторыяй, але і культурай. Мецъ зносіны з ёю, спрабаваць унікнуць да творчых здабыткаў кітайскіх пісьменнікаў — цікавая дарога. Паспрабаваць працы па ёй — захапленне з захапленняў... Трэба было бачыць бляск у вачах таго ж спадара Чжаа Хунба, калі ён расказваў пра раман Лу Яа «Звычайны свет». Альбо — пра вершы Ван Гочжэня. Я нават праслухаў адзін з яго вершаў — «Любоў да жыцця» — на кітайскай мове. І пасля пачуў пераказ на рускую мову, у якім мяне ўразіў і такі вось радок: «Няма гары, якая вышэй за чалавека. Няма дарогі, якая даўжэй за ступню чалавека». Што ж, будзем чакаць, што мясты літаратурнага пабрацімства Беларусі і Кітая яшчэ болей утрываляцца. І рупліўцы ў гэтай справе і з кітайскага, і з беларускага боку ёсць. Значыць, і плён, новыя здабыткі не прымусяць сябе чакаць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
*Кітай, Пекін*

# Місія — духоўная

Месячнік праваслаўнай кнігі прайшоў у Барысаўскім раёне. Ужо трэці год бібліёбус Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева выпраўляецца ў падарожжа па вясковых кніжніцах з духоўна-асветніцкай праграмай. «Слова лечыць, а духоўныя кнігі дапамагаюць жыць. У гэтым — галоўная мэта нашых вандровак», — зазначыла дырэктар Барысаўскай ЦРБ Галіна Слесарэнка.

У маршруце паездак — 15 населеных пунктаў. Больш як 600 вяскоўцаў прыйшлі на сустрэчу з духоўнай кнігай. Немалаважныя і зносіны са святарамі. Дзесяць настаяцеляў вясковых храмаў благаславілі прысутных і распавялі пра значныя хрысціянскія падзеі, кнігі Францыска Скарыны.

Сёлета галоўнай тэмай выязнога вусчнага часопіса «Дабравест» стала ўнікальнае выданне «Праваслаўнае жыццё на Барысаўшчыне: гісторыя і сучаснасць», якое пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Матэрыялы зборніка не маюць аналагаў і даюць яркае ўяўленне пра развіццё праваслаўя на барысаўскай зямлі раней і сёння.

У дадатак да прэзентацыі кнігі (аўтар-складальнік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандр Медзяльцоў) прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з выданнямі з фонду духоўна-асветніцкага цэнтра раённай бібліятэкі. У экспазіцыі — выданні пра айчынныя святыні, жыцці беларускіх святых.

**Алена КАПЫТОК**

# Літфонд: мэты і плён



*Фота Кастуся Дробава*

Пісьменнік, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня» Зіновій Прыгодзіч узначальвае савет Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду. Пра спецыфіку працы арганізацыі, задачы і перспектывы ў найбліжэйшы час Зіновій Кірылавіч распавядае чытачам «ЛіМа».

— Структура Літфонду ўключае яго савет і генеральнага дырэктара (з мінулага года гэты пост займае Мікалай Коваль). Яшчэ адзін элемент сістэмы — папячыцельскі савет, які павінен выконваць функцыю кантролю, — пакуль не створаны. Як правіла, савет Літфонду збіраецца раз на год для вырашэння прынцыповых, стратэгічных пытанняў.

Крыніцы даходаў Літфонду — перш за ўсё прадпрымальніцкая дзейнасць і спонсарскія ўзносы. Аднак наша арганізацыя не камерцыйная, і прадпрымальніцкай дзейнасцю мы можам займацца толькі ў пэўных межах, каб мець магчымасць зарабляць грошы і забяспечваць выкананне ключавых функцый.

**— А што гэта за функцыі?**

— Па-першае, стварэнне ўмоў для творчай працы пісьменнікаў: мы можам звяртацца да кіраўніцтва горада з просьбай выдзеліць творцам кааператыўнае ці арэнднае жыллё. У планах таксама прадастаўленне магчымасці лячэння пісьменнікам, якія маюць патрэбу. Гэта, у сваю чаргу, мае на ўвазе аказанне матэрыяльнай дапамогі на лячэнне, а таксама на юбілеі, рытуальныя паслугі. Летась выдаткавана больш як 35 мільёнаў рублёў. Сярод задач Літфонду і сацыяльна-прававая абарона: дапамагаем наняць кваліфікаванага юрыста для вырашэння спрэчкі ці канфлікту паміж пісьменнікам і супрацоўнікамі жыллёва-эксплуатацыйных службаў.

Калі песні на словы нашых паэтаў выконваюцца на вялікай сцэне, аўтары тэкстаў павінны атрымліваць пэўныя ганарары.

Не менш важны аспект — культурна-асветніцкая дзейнасць. Гэта фестывалі паэзіі, кшталту таго, што ладзіцца ў Маладзечне, літаратурныя конкурсы, дэбютныя выступленні маладых аўтараў, юбілейныя творчыя вечары, канцэрты, выданне кніг, перакладчыцкая дзейнасць... У суседняй Літве створаны інстытут перакладчыкаў, які штогод збірае творцаў з розных краін на адмысловы семінар. А пры заключэнні дамовы на перастварэнне той ці іншай кнігі перакладчык, як правіла, атрымлівае аванс. Такую практыку семінараў і заахвочвання плануе пераняць і наш Літфонд, каб прапагандаваць айчынную кнігу за мяжой.

**— Якія новыя кірункі дзейнасці?**

— Працуем над стварэннем бюро прапаганды. Сёння шмат хто выдае кнігі за свой кошт. На жаль, нярэдкія выпадкі, асабліва на перыферыі, калі аўтары, якія не ўваходзяць у склад СПБ, самастойна прэзентуюць свае кнігі ў школах і бібліятэках, часам прадстаўляючы публіцы творы, недасканалыя па змесце і мастацкай якасці. Бюро прапаганды будзе сачыць за тым, каб айчынную літаратуру прадстаўлялі толькі самыя таленавітыя творцы.

Займаемся рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасцю: выпускаем часопіс «Белая Вежа». Абавязкі галоўнага рэдактара выконвае публіцыст Уладзімір Вялічка, за плячыма якога — вялікі досвед не толькі рэдактарскай, але і грамадска-палітычнай працы. Плануем стварыць і ўласны друкарскі ўчастак, дзе будзем выпускаць рэкламныя матэрыялы. Ёсць у нас сваё выдавецтва, дзе ўжо выйшла некалькі кніг.

**— Колькі слоў пра будучыя праекты…**

— Мы ўжо звярнуліся да Адміністрацыі Прэзідэнта з просьбай замацаваць за Літфондам актавую залу Дома літаратара, дзе плануем стварыць уласны тэатр. У Мінску ёсць некалькі асобных тэатральных груп, якія не маюць пастаянных пляцовак. На конкурснай аснове выберам тую, што найбольш адпавядае праграме нашай дзейнасці, і будзем супрацоўнічаць. Мяркуем ладзіць творчыя пісьменніцкія камандзіроўкі не толькі па краіне, але і за межамі, і не на дзень-два, а, прыкладам, на месяц, каб дэтальна назіраць за жыццём, праблемамі і дасягненнямі людзей у канкрэтным горадзе ці мястэчку. Будзем клапаціцца пра матэрыяльную падтрымку маладых аўтараў, ладзіць выязныя семінары, спрыяць выданню іх кніг. Плануем заснаваць спецыяльную прэмію «Дэбют», якой будуць адзначацца найбольш малады творцы.

**Яна ЯВІЧ**

*Адначаснікі*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Міхась

**Заўсёды рады ягонаму тэлефанаванню і нашым доўгім размовам. А так мы часцей сустракаемся на святах у Вязынцы, Ракуцёўшчыне, куды ён прыязджае са свайго Маладзечна.**

З Міхасём Казлоўскім пазнаёміліся ў далёкія васьмідзясятыя мінулага стагоддзя, калі ён завітаў у Наваполацк да нас на літаб'яднанне, на купальскае свята, якое з сябрамі адзначалі на беразе Дзвіны.

Маладыя, рамантычныя, часам празмерна гарачыя, але яднала нас любоў да сваёй зямлі, цікавасць да яе мовы, культуры, гісторыі.

З таго часу нехта памяняўся, нехта занадта радыкалізаваўся, нехта адышоў ад былых захапленняў.

Міхась жа проста памудрэў, стаў больш разважлівым і глыбокім. Калі сустрэліся ўжо ў новым стагоддзі, выявілася, што ў нас шмат агульных думак. Больш за ўсё аб'яднала высnova: рабіць карыснае для Радзімы куды больш важка, чым кідацца гучнымі лозунгамі, лезці ў рожкі, паўсюль выстаўляць сябе.

Міхась і ёсць такі шчыры і самаадданы працаўнік на ніве беларускай культуры, беларускага слова.

Выдатны бібліёграф, таленавіты эсеіст, гісторык літаратуры, ён выдае часопіс «Куфэрак Віленшчыны», напісаў нямала кніг пра выдатных людзей нашага краю. Слухаць яго аповеды — адно задавальненне.

Усё гэта вызначае яго як дзеяча, творцу, грамадскую асобу. Але, на жаль, колькі бывае выпадкаў, калі такая вось яркая асоба ў паўсядзённым жыцці расчароўвае сваім нарцысізмам, зайздрасцю, абыякавасцю да блізкіх, іншымі маральнымі хібамі.

Міхася гэта, дзякуй богу, абышло. Ён шчыры ў думках, учынках, словах. Не ганіцца за танным поспехам, не выпінае сваю асобу, не шукае хітрых шляхоў і не заводзіць патрэбных сувязяў, хаця дапамога ў яго выдавецкіх справах, безумоўна, не зашкодзіла б.

Словы мае больш нагадваюць характарыстыку, не даюць, канечне, поўнага творчага партрэта.

Але галоўнае — што ёсць сярод маіх адначаснікаў такі вось сапраўдны сын свайго народа.

# Як вада, як хлеб

У сталіцы прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Гэты дзень мы набліжалі як маглі...» з удзелам каля паўтысячы гісторыкаў, архівістаў, літаратуразнаўцаў з Беларусі, Расіі, Азербайджана, Казахстана, Германіі, Украіны, Таджыкістана, Узбекістана, прадстаўнікоў дыпламатычных місій, грамадскіх дзеячаў. Можна сцвярджаць, што форум стаў найбуйнейшай сёлетняй канферэнцыяй, прысвечанай 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У якасці арганізатараў выступілі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Міністэрства абароны краіны.

Падчас пленарнага і секцыйных пасяджэнняў разглядаліся сучасныя падыходы да асвятлення падзей Вялікай Айчыннай, праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства, унёсак беларускага народа ў Вялікую Перамогу. Не засталася без увагі і літаратура ваеннай тэматыкі. Так, у межах канферэнцыі прайшло пасяджэнне секцыі «Мастацка-філасофскае асэнсаванне падзей Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры», у якім узялі ўдзел вядомыя літаратуразнаўцы, выкладчыкі ВНУ і настаўнікі школ, пісьменнікі. Ганаровымі гасцямі сталі літаратары-франтавікі Алесь Савіцкі і Анатоль Дзялендзік.

Анатоль Андрэевіч у выступленні падзяліўся ўласнымі ўспамінамі пра гады ваеннага ліхалецця:

— У 1942 годзе я жыў у дзеда, які быў звязаны з партызанамі. Аднойчы да нас у хату прыйшлі паліцаі. Вывелі дзеда на ганак, стрэлілі ў патыліцу. А ўсю сям'ю — 14 чалавек вывелі зранку. Колю, самага старэйшага, застрэлілі, перад гэтым прымусіўшы сабе самому капаць магілу. А на мяне начальнік паліцыі паглядзеў і сказаў, што я яшчэ не магу помсціць. Мне тады было 10. Адпусцілі. А маглі і не адпусціць, бо праз некалькі дамоў жыла дзяўчынка Ліда, чыя маці была звязаная з партызанамі, яе вывелі на могілкі і застрэлілі. Падзеі адбываліся ў Слуцкім раёне. Засталіся ў вёсцы адны жанчыны. Потым нас з мамай забралі ў партызанскі атрад...

У партызанскім атрадзе будучы пісьменнік стаў ад'ютантам камандзіра атрада, разведчыкам. Сёння ён прызнаецца, што пра вайну пісаць не хоча. Надта шмат страшных і трагічных падзей давялося перажыць у тыя часы. Ён стаў урачом-псіхіятрам, многа гадоў прысвяціў медыцыне, таму і цяпер сваім пісьменніцкім абавязкам лічыць уздымаць людзям настрой, піша ў асноўным камедыі і распавядае пра вясёлае.

А вось драматург Аляксей Дудараў, які каля дваццаці гадоў таму напісаў п'есу «Радавыя» на аснове прачытаных апавяданняў, раманаў, успамінаў пра вайну, надзвычай засмучаны яе папулярнасцю і актуальнасцю. Аляксей Ануфрыевіч падкрэсліў:

— Як аўтара мяне вельмі радуе тое, што п'еса дагэтуль актуальная. Але як чалавек, як хрысціянін, я не вельмі гэтым задаволены. Лепш бы яна сышла ў нябыт. Не так даўно я паглядзеў спектакль Уладзіміра Мішчанчука, пастаўлены паводле гэтага твора ў Тэатры-студыі кінаакцёра, і проста жахнуўся. Другі раз не пайшоў на спектакль. Мне ўжо цяжка.

Па меркаванні драматурга, для беларускіх творцаў тэма Вялікай Айчыннай вайны заўсёды будзе актуальнай, яна ніколі не надакучыць, — як вада, як хлеб.

**Юзэфа ВОЎК**

*Унікальны праект*

# Барадулін — пра Барадуліна

Калі будучы народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін вучыўся ў восьмым класе, то не вылучаўся прыкладнымі паводзінамі, часта атрымліваў заўвагі ад настаўнікаў. Не надта любіў анатомію, затое нямецкая мова, геаграфія, беларуская, руская мова і літаратура былі ў ліку любімых прадметаў. Васьмікласнік Рыгор зачытваўся кнігамі, бавіў шмат часу з сябрамі і ўжо пачынаў звяртаць увагу на прыгожых дзяўчат. Не надта старанна рыхтаваўся да ўрокаў, затое сачыненні пісаў хутка, меў выдатнае пачуццё гумару, час ад часу складаў вершы.

Адкуль гэта ведаю? З новай кнігі дзённікаў і запісаў Рыгора Барадуліна (Мінск: Кнігазбор, 2015), куды ўвайшлі дзённікі, кароткія рабочыя зацемкі, паэтычныя накіды і ўражанні ад шматлікіх паездак. Усе дакументы, што склалі аснову выдання, датуюцца 1951 — 1969 гадамі. Перад вачыма чытача мільгае жыццё Барадуліна-васьмікласніка (яго школьны дзённічак, напісаны па-руску і датаваны 1951 годам, быў цудам адшуканы), студэнта першага і другога курсаў філфака БДУ, працаўніка на цаліне (1955 — 1956). Са старонак гэтага выдання чытачы змогуць даведацца пра ўражанні ад першай замежнай паездкі Барадуліна ў Польшчу (1958), а таксама многіх падарожжаў па гарадах Беларусі, у Эстонію, Краснаярскі край, Туву, Хакасію, Латвію, Далёкі Усход, Крым, Азербайджан, Узбекістан і, натуральна, родную Ушаччыну, куды паэт заўсёды вяртаўся з асаблівай радасцю.

Разам з аўтарам дзённіка адчуваем радасць ад першай публікацыі верша ў «Чырвонай змене», наведваем пісьменніцкія сходы, ходзім у кіно і на лекцыі, перажываем за маці, якая засталася зусім адна ў вёсцы і, хоць сама не так многа мае, але дасылае пасылкі сыну. Яшчэ губляем грошы, хвалюемся за памер стыпендыі, рыхтуемся да экзаменаў і п'ём віно з сябрамі. Разам з Барадуліным чытач перажывае і яго першае каханне да аднакурсніцы Ані. Тут паэт паказвае сябе не толькі як уражлівы закаханы юнак, які жыве адно сваім пачуццём, але і як мудры чалавек.

Адметна, што ў новым выданні прадстаўлены не толькі цэльныя дзённікавыя запісы, але і шматлікія раскіданыя заценкі і нататкі, зробленыя паэтам на хаду. Па меркаванні ўкладальніцы кнігі Наталлі Давыдзенка, важна як мага больш поўна сабраць, спарадкаваць і




расшыфраваць гэтыя дакументы, бо ўсё занатаванае аўтарам ужо з'яўляецца гісторыяй і паказвае часы даўно мінулага, для многіх незразумелага ці нават зусім невядомага.

На старонках кнігі чытач пазнаёміцца і з невядомымі вершамі Рыгора Барадуліна, іх паэт не ўключаў у свае зборнікі. Тут прадстаўленая і самая першая паэма творцы «Зацвітаюць купавы» (1958 — 1959), прысвечаная лёсу маці і бацькі паэта. Пра гэты твор сам Рыгор Іванавіч ніколі не згадваў.

У сваіх дзённіках Рыгор Барадулін паўстае як надзвычай кемлівы, назіральны малады чалавек, які дбае пра сваю адукацыю, старанна вучыцца ва ўніверсітэце, разам з тым любіць пасмяяцца, пажартаваць, іранічна ставіцца да сябе. Перад намі толькі першы выпуск дзённікаў. Спадзяюся, хутка пабачаць свет і запісы народнага паэта, зробленыя пасля 1969 года, дзе можна будзе далей прасачыць развіццё таленту і сталенне творчай думкі Майстра.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Стражнікі Белавежскай пушчы

Клуб «Суразмовец» існуе пры Жабінкаўскай раённай бібліятэцы больш як дзесяць гадоў. Сябры яго — людзі сталага ўзросту, паяднаныя любоўю да кнігі. А не так даўно да «суразмоўцаў» завітаў пісьменнік-зямляк Анатоль Брытун, аўтар рамана «Пах мускусу».

Летась на Брэсцкую мытню, дзе Анатоль Брытун працуе старшым інспектарам, прыйшло падзячнае пісьмо ад Пасла Беларусі ў Францыі, Іспаніі, Партугаліі і Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА Паўла Латушкі. Ён напісаў: «Вельмі прыемна атрымаць кнігу на роднай мове пра Белавежскую пушчу, якая з'яўлялася для мяне асабіста адной з самых лепшых мясцін у свеце». Гэтае выданне беларускаму дыпламату перадалі кіраўнікі Брэсцкай мытні ў час рабочай камандзіроўкі ў Францыю.

На пытанне пра тое, як з'явілася задумка рамана і ўзнікла жаданне пісаць, Анатоль Арцёмавіч адказаў:

— Я змалку быў летуценнікам, марыў пабываць у далёкіх краінах, убачыць дзівоснае. Вельмі любіў прыгодніцкія кнігі і быў самым адданым чытачом бібліятэкі ў вёсцы Баранцы, дзе нарадзіўся. Калі чытаў, цалкам акунаўся ў свет кнігі, нібыта жыў там. Аднойчы здарылася смешнае. Чытаў раман Даніэля Дэфо «Рабінзон Круза» і ўявіў сябе чалавекам, які жыў на бязлюдным востраве і праз пятнаццаць гадоў убачыў на пяску сляды ног чалавечых. Мне стала так страшна, што я, спалоханы, выбег з хаты. Не, гляджу: маці і бацька ёсць, я не адзін!

Задума рамана «Пах мускусу» нарадзілася ў Анатоля Брытуна не так даўно. Апошнія гады свайго жыцця маці жыла ў сына і шмат расказвала пра дзеда і прадзеда, якія былі стражнікамі ў Белавежскай пушчы. Іх у 1915 годзе выселілі адтуль кайзераўскія салдаты.

— Слухаючы яе, я не адзін раз падумаў: ёсць Аляска, пра якую Джэк Лондан напісаў дзясяткі кніг; ёсць прэрыі і раманы Фенімора Купера; ёсць фільмы і кнігі пра Шэрвудскі лес, дзе жыў Робін Гуд, а пра Белавежскую пушчу — самы прыгожы і запаведны лес у Еўропе — няма ніводнай прыгодніцкай кнігі. І стаў фантазіраваць. Так з'явіўся раман «Пах мускусу», — працягвае гаворку Брытун.

— Мая першая спецыяльнасць — гісторык, — распавёў на прэзентацыі пісьменнік і журналіст Анатоль Бензярук, — таму, беручы кнігу, імкнуся знайсці, дзе аўтар адышоў ад гістарычнай праўды. У рамане Брытуна я такіх адступленняў не выявіў. І яшчэ: сёння нямала нараканняў на тое, што няма тэкстаў для экранізацыі. А чаму б нашым рэжысёрам не стварыць прыгодніцкую стужку для падлеткаў паводле рамана «Пах мускусу»?

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Навінкі кнігавыдання

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Усачев, А. А.** Веселая математика: [для младшего школьного возраста] / А. Усачев. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084599-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3088-2 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Дядя Федор, пес и кот: [повесть-сказка: для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Э. Успенский; [художник О. Боголюбова]. — Москва: АСТ, 2014. — 196 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-077363-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3168-1 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Дядя Федор, пес и кот: [сказочные повести: для дошкольного возраста] / Э. Успенский; [художник О. Боголюбова]. — Москва: АСТ, 2014. — 267 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084968-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3207-7 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Зима в Простоквашино: [сказочная повесть: для младшего школьного возраста] / Э. Успенский; художник А. Воробьев. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 75 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086183-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3253-4 (Харвест) (в пер.).



***Саковіч, П. П. Рэха трывожных гудкоў: паэма і апавяданні: [да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў] / Павел Саковіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 62 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0790-8.***

*Змест кнігі пісьменніка Паўла Саковіча склалі паэма і апавяданні, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Рашэнне выдаўцоў аб'яднаць пад адной вокладкай творы розных жанраў цалкам лагічнае. Справа ў тым, што на старонках гэтага выдання аўтар распавёў не зусім стандартныя гісторыі прыгодаў сяброў на чыгунцы і ў школе, паказаў адгалоскі страшных ваенных падзей у мірным часе. Павел Саковіч аднолькава таленавіта выявіў творчую індывідуальнасць як у паэзіі, так і ў прозе.*

**Успенский, Э. Н.** Истории про Чебурашку и крокодила Гену: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Э. Успенский. — Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-064878-8 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7998-6 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Маленькие сказочные истории про Чебурашку и крокодила Гену: [для дошкольного возраста] / Э. Успенский. — Москва: АСТ, 2014. — 30 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-085345-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3198-8 (Харвест) (в пер.).

**Цыферов, Г. М.** Паровозик из Ромашково: [для младшего школьного возраста] / Г. Цыферов; художники: Е. Запесочная [и др.]. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086586-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3313-5 (Харвест) (в пер.).

**Читаем и поем с малышом:** [для дошкольного возраста] / художник Иван Цыганков. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-89624-583-4 (Родничок). — ISBN 978-5-17-084689-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3180-3 (Харвест) (в пер.).

**Чуковский, К. И.** Айболит; Федорино горе: [сказки: для дошкольного возраста] / К. Чуковский; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-079391-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2168-2 (Харвест) (в пер.).

**Чуковский, К. И.** Все сказки: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / К. Чуковский; рисунки С. Бордюга и Н. Трепенок. — Москва: АСТ, 2014. — 186 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084477-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3208-4 (Харвест) (в пер.).

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Быкова, С. А.** Веселый гномик: стихи и загадки [для детей] / Светлана Быкова. — Минск: Смэлток, 2014. — 23 с. — 420 экз. — ISBN 978-985-6998-40-2.

**Быкова, С. А.** История одной снежинки: сказки / Светлана Быкова. — Минск: Смэлток, 2014. — 19 с. — 420 экз. — ISBN 978-985-6998-39-6.

**Губина, Л. Н.** Веселый ручеек: стихи и загадки для детей / Людмила Губина. — Минск: Лазурак, 2014. — 12 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-6260-64-6.

**Дудюк, З. И.** Полеты в теории и на практике: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Дудюк Зинаида Иосифовна]. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3314-2.

**Жабко, Я. Г.** Самая родная: [для младшего школьного возраста: для чтения взрослыми детям] / Янина Жабко; художник Оксана Аракчеева. — Минск: Звязда, 2014. — 38 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-50-3.

**Ждан, О. А.** Приключения тритэшек в Беларуси: [повести: для среднего школьного возраста] / Олег Ждан; [художник Светлана Ковалевская]. — Минск: Звязда, 2014. — 76 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7083-25-1 (в пер.).

**Сметанин, А. В.** Почему исчезли динозавры: [для чтения взрослыми детям] / Андрей Сметанин; [иллюстратор Надежда Баландина]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2013. — 43 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7020-23-2.

**Шломан, В.** Пропавшая книга: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Владимир Шломан. — Минск: Букмастер, 2014. — 221 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-920-7 (в пер.).

**Беларуская літаратура**

**Арыстава, В. С.** Беларуская азбука ў вершах: вывучай буквы і запамінай забаўныя вершыкі! / Вольга Арыстава. — Мінск: Арыстава Таццяна Валер'еўна, 2014. — 10 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90323-8-7.

**Бадак, А.** Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца: аповесць: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Алесь Бадак. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 39 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0795-3.

**Дайнека, Л. М.** Чалавек з брыльянтавым сэрцам: фантастычны раман: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Леанід Дайнека. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 262 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0796-0.

**Крынічка:** хрэстаматыя для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / [укладальнік Раіса Шастак; мастак Алена Карповіч]. — 4-е выд. — Мінск: Радыёла-плюс, 2014. — 431 с. — Выдадзена пры ўдзеле ТАА «Папуры» (Мінск). — 5100 экз. — ISBN 978-985-448-123-4 (у пер.).

**Ткачоў, В. Ю.** Высокі страх: апавяданні / Васіль Ткачоў; [мастак Таццяна Кубліцкая]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 49 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1501-7.

**ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ**

**Краязнаўства**

**Бяласін, Я.** Подземные ходы Бреста, крепости и...: журналистское исследование с элементами литературы существования / [Яўген Бяласін]. — Брест: Полиграфика, 2014. — 63 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-6970-74-3.

**Витебск = Vitebsk** / Витебский городской исполнительный комитет; [составитель Е. А. Климентенок]. — Витебск: Витебская областная типография, 2014. — 205 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-534-060-8 (в пер.).

**Витебский район:** 90 лет. — Витебск: Витебская областная типография, 2014. — 64 с. — 200 экз.

**Гісторыя і культура ў сельскім развіцці** = История и культура в сельском развитии / [Т. С. Вярцінская і інш.; пад агульнай рэдакцыяй М. М. Малінінай]. — Мінск: Прапілеі, 2014. — 198 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6329-95-4.

**Про Витебск** = About Vitebsk / [автор текста: Е. И. Федорова; под общей редакцией: И. Н. Макаренко; перевод текста с русского языка: И. Л. Макаренко]. — Витебск: Витебский областной центр маркетинга, 2014—

Вып. 3. — 2014. — 47 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 5000 экз. (1-й з-д 3 тысячи). — ISBN 978-985-6896-39-5.

**Соколов, Г. Н.** Достопримечательности Славгородского района / Георгий Соколов; [фото В. В. Езерской и др.]. — Могилев: АмелияПринт, 2014. — 16 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6891-32-1.



***Бельскі, А. І. Тут іх карані і вытокі: вядомыя людзі з Капыльшчыны ў свеце / Алесь Бельскі. — Мінск: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2014. — 67 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-90254-8-8.***

*Беларуская зямля багатая на таленты. Гэтае выказванне шмат разоў пацвярджаецца даследаваннямі лёсаў суайчыннікаў, якія сталі вядомыя не толькі на Радзіме, але і ўнеслі значны ўклад у развіццё культуры і навукі іншых краін. Безумоўна, славіцца сваімі сынамі і Капыльшчына. Вывучэннем лёсаў землякоў ужо шмат гадоў сур'ёзна займаецца літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Алесь Бельскі. У сваёй новай кнізе ён прапануе біяграфіі вядомых ураджэнцаў сваёй малой радзімы. Адметна, што пра некаторых з іх дагэтуль не было публікацый, а пра большасць герояў кнігі звесткі адсутнічаюць нават у энцыклапедыях.*

**Старые Дороги** / [Стародорожский районный исполнительный комитет; фотоиллюстрации: Н. Астрейко и др.; фото: Плыткевич С.; редактор: Плыткевич Н.]. — Минск: Рифтур, 2014. — 48 с. — 320 экз.

**Біяграфічныя і падобныя даследаванні**

**Сергеева, Т. Н.** Судьба: [о семьях Аляткиных и Кубанкиных] / Татьяна Сергеева. — 2014. — 174 с. — 50 экз.

**Гісторыя**

**Аджи, М.** Великая степь. Приношение тюрка / Мурад Аджи. — Москва: АСТ, 2014. — 670 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083821-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3362-3 (Харвест) (в пер.).

**Вілейскі павет:** гісторыка-краязнаўчы гадавік / [укладальнікі: Сяргей Макарэвіч, Дзяніс Канецкі]. — Мінск: Галіяфы, 2014—

Вып. 1. — 2014. — 179 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-45-1.

**Воронкова, И. Ю.** Минск: лето 1941, лето 1944 / И. Ю. Воронкова; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 332 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1724-2.

**Гусарова, Г. А.** Великая Отечественная война советского народа (в контексте Второй мировой войны): материалы для самостоятельной работы для студентов всех факультетов / Г. А. Гусарова, А. М. Куницкая; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия, Кафедра истории и культурологии. — Горки: БГСХА, 2014. — 78 с. — 75 экз.

**Европа: актуальные проблемы этнокультуры:** материалы V Международной научно-теоретической конференции, г. Минск, 22 мая 2012 г. / [редколлегия: В. В. Тугай (отв. ред.) и др.]. — Минск: БГПУ, 2012. — 327 с. — Часть текста на белорусском языке. — 125 экз. — ISBN 978-985-501-978-8 (ошибоч.).

**Европа: актуальные проблемы этнокультуры:** материалы VI Международной научно-теоретической конференции, г. Минск, 22 апреля 2013 г. / [редколлегия: В. В. Тугай (отв. ред.) и др.]. — Минск: БГПУ, 2013. — 352 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 165 экз. — ISBN 978-985-541-131-5.

**Кортеж российской власти. IX—XXI века: биографический справочник:** пособие для студентов, обучающихся по специальности 1-21 03 01 «История (по направлениям)»: в 3 ч. / под редакцией О. А. Яновского. — Минск: РИВШ, 2013—2014. — ISBN 978-985-500-664-1.

Ч. 3 / [составители: О. А. Яновский и др.]. — 2014. — 330 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-500-715-0.

**Косов, А. П.** Историография истории: (историография всемирной истории): методические рекомендации: [для студентов и преподавателей] / А. П. Косов; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра всеобщей истории и мировой культуры. — Витебск: ВГУ, 2014. — 50 с. — 130 экз.

**Лагерь смерти «5-й полк»** / [составители: А. М. Подлипский, В. А. Ризо]. — Витебск: Витебская областная типография, 2014. — 79 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-534-059-2.

**На беразе мора Герадота:** вандроўкі па Калінкавіцкай зямлі / [рэдактар-складальнік Гарыст І. І.]. — Мазыр: КПУП «Калор», 2014—

Ч. 1. — 2014. — 359 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6830-57-3 (у пер.).

**Павач, А. А.** Под крылом Коложи: карманная история Гродно / Андрей Павач. — Минск: ЮрСаПринт, 2014. — 222 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-99335-2-3.

**Паноў, С. В.** Чалавек і свет: мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / С. В. Паноў, Л. А. Ярашэвіч. — Мінск: ЮніПрессМаркет, 2014. — 74 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-560-873-9.

**Пурышава, Н. М.** Гісторыя Беларусі: інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену / Н. М. Пурышава, М. І. Старавойтаў. — Мінск: Тетралит, 2014. — 303 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-7081-09-7.

**Пурышева, Н. М.** История Беларуси: школьный курс в кратком изложении / Н. М. Пурышева, М. И. Старовойтов. — Минск: Тетралит, 2014. — 240 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7081-10-3.

**Рэпрэзентацыя і музеефікацыя творчай спадчыны Тышкевічаў у Беларусі і Літве:** 5-я міжнародныя Тышкевіцкія чытанні, Мінск, Крэцінга, 14—15 мая 2014 г.: манаграфічны зборнік / [навуковыя рэдактары: М. А. Бяспалая, Ю. Канарскас, А. І. Смолік]. — Мінск: БДУКМ, 2014. — 181 с. — Частка тэксту на англійскай і польскай мовах. — Частка тэксту паралельна на беларускай и англійскай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-103-7.

**Шиманский, М. Н.** Мы этой памяти верны: очерки / Михаил Шиманский. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 269 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1573-4 (в пер.).

**Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура**

**Антипенко, О. В.** Денежная азбука: [для школьников / Ольга Антипенко]. — Минск: БелКП-ПРЕСС, 2014. — 48 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-90271-3-0 (ошибоч.).

**Котов, А. И.** История Беларуси и мировые цивилизации = The history of Belarus and the world civilizations: [перевод с белорусского] / Альберт Котов. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 233 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7090-21-1.

**Кошевар, Д. В.** Динозавры: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086503-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3421-7 (Харвест) (в пер.).

**Кошевар, Д. В.** Космос: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086504-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3423-1 (Харвест) (в пер.).

**Кошевар, Д. В.** Подводный мир: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086609-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3425-5 (Харвест) (в пер.).

**Кошевар, Д. В.** Человек: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086613-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3422-4 (Харвест) (в пер.).

**Трафимова, Г. В.** Букварь Оршанский = Буквар Аршанскі: [для детей] / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Белфакта Медиа, 2014. — 63 с. — Текст параллельно на русском и белорусском языках. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7010-49-3. — ISBN 978-985-7010-22-6 (ошибоч.).

**Шлопак, Т. Г.** Большой подарок для девочек: [для среднего и старшего школьного возраста] / Т. Г. Шлопак. — Москва: АСТ, 2014. — 223 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086416-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3417-0 (Харвест) (в пер.).

**Я — гражданин Республики Беларусь** = Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь / [Г. А. Василевич и др.; редакционный совет: В. В. Якжик (председатель) и др.; автор стихов Н. Я. Гальперович; фотоматериалы П. В. Костромы и др.]. — 8-е изд., пересмотренное и дополненное. — Минск: Пачатковая школа, 2014. — 255 с. + 2 электронно-оптических диска (CD-ROM). — Часть текста на белорусском языке. — 43100 экз. — ISBN 978-985-565-116-2. — ISBN 978-985-565-117-9 (отд. кн.) (в пер.). — ISBN 978-985-565-127-8 (CD-ROM 1). — ISBN 978-985-565-118-6 (CD-ROM 2).

**Мастацкая літаратура на асобных мовах**

**Созвучие:** альманах / [составители: Алесь Бадак, Алесь Карлюкевич]. — Минск: Звязда, 2014. — 366 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-62-6 (в пер.).

**Англійская літаратура**

**Каммингс, М.** Дорога домой: [перевод с английского] / Мери Каммингс. — Минск: Букмастер, 2014. — 249 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-911-5 (в пер.).

**Оруэлл, Д. 1984:** [роман]; Скотный Двор: [сказка-аллегория] / Джордж Оруэлл; [перевод с английского В. Голышева, Л. Беспаловой]. — Москва: АСТ, 2014. — 363 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-083387-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3077-6 (Харвест) (в пер.).

**Літаратура ЗША на англійскай мове**

**Александер, В.** Любовница на Рождество: роман / Виктория Александер; [перевод с английского И. Г. Ирской]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081393-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3492-7 (Харвест) (в пер.).

**Бартон, А.** Секреты леди: роман / Анна Бартон; [перевод с английского Т. А. Осиной]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082956-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3378-4 (Харвест) (в пер.).

**Бачигалупи, П.** Заводная и другие: [сборник] / Паоло Бачигалупи; [перевод с английского В. Егорова, В. Гольдича]. — Москва: АСТ, 2014. — 573 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-084786-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3462-0 (Харвест) (в пер.).

**Бланк, Д. Н.** Королевство братства: сказка / братья Бланк. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 51 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-04-8.

**Боумен, В.** Тайны сбежавшей невесты: роман / Валери Боумен; [перевод с английского Н. В. Паниной]. — Москва: АСТ, 2014. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081262-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3402-6 (Харвест) (в пер.).

**Грей, Д.** Чтобы встретиться вновь: роман / Джулиана Грей; [перевод с английского Е. Максимовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081935-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3386-9 (Харвест) (в пер.).

**Деверо, Д.** Незнакомец под луной: [роман] / Джуд Деверо; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084238-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3485-9 (Харвест) (в пер.).

**Дрейк, О.** Долг и страсть: роман / Оливия Дрейк; [перевод с английского В. И. Матвеева]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082567-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3434-7 (Харвест) (в пер.).

**Карр, И.** Нежные сети страсти: роман / Изобел Карр; [перевод с английского Я. Е. Царьковой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082601-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3387-6 (Харвест) (в пер.).

**Карр, И.** Соблазненный обольститель: роман / Изобел Карр; [перевод с английского В. И. Агаянц]. — Москва: АСТ, 2014. — 313 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082613-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3513-9 (Харвест) (в пер.).

**Кинг, С.** Тьма, — и больше ничего: [сборник] / Стивен Кинг; [перевод с английского В. В. Антонова, В. А. Вебера, М. В. Жученкова]. — Москва: АСТ, 2014. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086373-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3520-7 (Харвест) (в пер.).

**Коннелли, М.** Последний срок: [роман] / Майкл Коннелли; [перевод с английского А. А. Соколова]. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083836-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3507-8 (Харвест) (в пер.).

**Куин, П.** Покоренная горцем: роман / Пола Куин; [перевод с английского А. И. Вальтер]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079913-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3511-5 (Харвест) (в пер.).

**Линдсей, Д.** Погоня за счастьем / Джоанна Линдсей; [перевод с английского Т. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086470-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3468-2 (Харвест) (в пер.).

**Майер, С.** Затмение: [роман] / Стефани Майер; [перевод с английского О. Василенко]. — Москва: АСТ, 2014. — 635 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-068414-4 (АСТ). — ISBN 978-985-16-6643-6 (Харвест) (в пер.).

**Майер, С.** Новолуние: [роман] / Стефани Майер; [перевод с английского А. Ахмеровой]. — Москва: АСТ, 2014. — 543 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-065678-3 (АСТ). — ISBN 978-985-16-8020-3 (Харвест) (в пер.).

**Макнамара, Э.** Джентльмен-дьявол: роман / Эшли Макнамара; [перевод с английского Е. Моисеевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082756-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3473-6 (Харвест) (в пер.).

**Макнот, Д.** Уитни, любимая: [роман] / Джудит Макнот; [перевод с английского Т. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 542 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085985-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3484-2 (Харвест) (в пер.).

**Роуэн, Н.** Опасный флирт: роман / Нина Роуэн; [перевод с английского М. В. Келер]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080989-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3379-1 (Харвест) (в пер.).



***Авласенко, Г. П. Как зверята правила безопасности на воде изучали: [для младшего школьного возраста] / Геннадий Авласенко; [художник Оксана Аракчеева]. — Минск: Звязда, 2014. — 35 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-7083-57-2.***

*Набліжаецца лета, час адпачынкаў на моры, возеры і каля рэк. Таму бацькам варта паклапаціцца не толькі пра пуцёўкі, але і пра тое, каб іх дзеткі ведалі, як правільна сябе паводзіць на вадзе. Дзіцячы пісьменнік Генадзь Аўласенка ў гэтай кнізе не проста строга пералічвае асноўныя правілы, але і ў цікавай форме, разам з казачнымі героямі, тлумачыць, чаму варта памятаць пра бяспеку. А выдатныя малюнкі Аксаны Аракчэевай дапамогуць ператварыць чытанне ў вясёлую гульню.*

**Смолл, Б.** Ворон: [роман] / Бертрис Смолл; [перевод с английского Л. А. Михайловой]. — Москва: АСТ, 2014. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086682-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3383-8 (Харвест) (в пер.).

**Смолл, Б.** Своенравная наследница: [роман] / Бертрис Смолл; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086683-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3457-6 (Харвест) (в пер.).

**Стил, Д.** Чарлз-стрит, 44: [роман] / Даниэла Стил; [перевод с английского У. Сапциной]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 6500 экз. — ISBN 978-5-17-087208-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3472-6 (Харвест) (в пер.).

**Хемингуэй, Э.** Прощай, оружие!: [роман] / Эрнест Хемингуэй; [перевод с английского Е. Калашниковой]. — Москва: АСТ, 2014. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-071774-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3453-8 (Харвест) (в пер.).

**Эллиот, К.** Опасное желание: роман / Кара Эллиот; [перевод с английского В. А. Сухановой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082594-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3512-2 (Харвест) (в пер.).

**Руская літаратура**

**Акунин, Б.** Сокол и Ласточка: [роман] / Борис Акунин. — Москва: АСТ, 2014. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-083670-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3398-2 (Харвест).

**Антоновский, И.** Спальные районы страны OZ / Игорь Антоновский. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086813-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3483-5 (Харвест) (в пер.).

*Прэзентацыя*

# Сядзіба — узорны свет



*Анатоль Федарук прадстаўляе кнігу «Старадаўнія сядзібы Гродзеншчыны».*

Прафесар, доктар біялагічных навук, выкладчык БДПУ імя Максіма Танка Анатоль Федарук прэзентаваў гродзенцам сваю кнігу «Старадаўнія сядзібы Гродзеншчыны». Вывучэнне гісторыі роднага краю праз палацава-паркавае мастацтва даўно стала справай яго жыцця.

З-пад пяра Анатоля Федарука выйшлі многія працы па батаніцы, але вялікай колькасці людзей у нашай краіне ён вядомы як аўтар кніг па гісторыі садова-паркавага мастацтва. Выданне «Старадаўнія сядзібы Гродзеншчыны» пабачыла свет у лістападзе 2014 года пры фінансавай падтрымцы Замкавага комплексу «Мір». На больш як паўтысячы старонках утрымліваюцца звесткі пра сядзібы XVI — пачатку XX ст., на тэрыторыі Берастаўіцкага, Ваўкавыскага, Воранаўскага, Гродзенскага, Дзятлаўскага, Зэльвенскага і Іўеўскага раёнаў. У кнізе даецца характарыстыка архітэктурных пабудоў, паркаў, водных сістэм, апісваецца шляхецкая культура, мастацкія і фамільныя каштоўнасці, стыль жыцця іх уладальнікаў, утрымліваецца каля 700 ілюстрацый.

Прэзентацыя кнігі прайшла ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. Аўтара, цікавага і захопленага аратара, аўдыторыя слухала з вялікай увагай. Як распавёў Анатоль Тарасавіч, сядзібу нельга зводзіць толькі да забудовы. Сядзіба — гэта феномен, асаблівы свет, у якім выхоўваўся ідэальны шляхціц, будучы ўладальнік маёнтка. Гэта прастора, дзе абмяркоўваліся высокія жыццёвыя матэрыі: сэнс быцця, чалавечыя каштоўнасці. Акрамя таго, тут нараджалася адмысловая сядзібная культура.

На тэрыторыі Гродзеншчыны Анатоль Федарук адзначыў каля 600 сядзіб. Акрамя руін некаторых замкаў, з часоў Рэнесансу засталася адна — у Гайцюнішках. Помнік перадае сутнасць каменнага дойлідства, які з'явіўся ў эпоху Рэнесансу. «Тое, што сядзіба захавалася ў добрым стане — рэдкі выпадак», — кажа Анатоль Федарук. Яна застаецца самай старажытнай на тэрыторыі Беларусі, а таксама адзіным у краіне домам-крэпасцю. У XVII стагоддзі ў Беларусь прыходзіць барока, якое развівалася ў складаных эканамічных умовах, таму будаўніцтва барочных ансамбляў было пад сілу багатым уладальнікам. Лепш за ўсё захаваўся Дзятлаўскі палац, які належаў Радзівілам, а потым Солтанам. Час змяніў яго, але і сёння тут можна ўбачыць фасады, упрыгожаныя плоскімі і прафіляванымі пілястрамі, арнаменты, геральдычныя знакі і г. д.

— Гродзенскую зямлю вывучаць цікава: тут было шмат знакавых архітэктурных з'яў. І нідзе так не праявілася эпоха позняга барока, — зазначае Анатоль Тарасавіч.

У Гродне позняе барока звязанае з іменем Антонія Тызенгаўза. У сэрцы былой Гарадніцы калісьці размяшчаўся яго ўласны палац, які, на жаль, не перажыў Першую сусветную вайну. Палац будаваў прадстаўнік барочнай школы Мозэр, але заканчваў працу італьянец Джузэпэ Сака, які стаў галоўным каралеўскім архітэктарам. Ён дадаў матывы французскага класіцызму. Як распавядае Анатоль Федарук, палац сімвалізаваў свайго ўладальніка: вежа ў цэнтры — сімвал мозга, а цэнтральны аб'ём — сімвал сэрца высакароднага чалавека. Флігелі, якія ўтваралі замкнёны двор курданэр, — выцягнутыя рукі чалавека. І сапраўды, Антоній Тызенгаўз працягваў свае рукі ў бок Заходняй Еўропы, адкуль чэрпаў новыя ідэі і запрашаў спецыялістаў.

Джузэпэ Сака хутка заўважылі магнаты, якія сталі запрашаць яго ў свае прыватныя рэзідэнцыі. Адна з іх — Свяцкая рэзідэнцыя Валовічаў. Гэта яшчэ барока, але ўжо з элементамі класіцызму. Акрамя таго, у інтэр'ерах палаца практычна ўпершыню на землях Беларусі з'яўляюцца элементы рамантызму. Вяршыня творчасці Сака — палац у Шчорсах. Туды яго запрасіў Іаахім Храптовіч, пра якога гавораць як пра найсвятлейшую асобу эпохі Асветніцтва. У палацы ён сабраў вялікую калекцыю старажытных рукапісаў, геаграфічных карт Беларусі, Літвы і Польшчы, бібліятэку з рэдкім зборам кніг. «Палацу не было роўных у акрузе», — адзначае прафесар.

Распавядаючы пра сядзібы, Анатоль Тарасавіч звярнуў увагу на іх асаблівае значэнне:

— Ніхто не вымерае, ніхто не ацэніць, колькі мастацкага багацця страціла наша зямля. Бо нават у кожнага засцянковага шляхціца былі нейкія фамільныя каштоўнасці. Усё разляцелася! Усё загінула ў агні войнаў, пажараў, гаспадарчай разрухі. Ды і мы самі далёка не заўсёды па-сапраўднаму шанавалі гэтыя каштоўнасці і змагаліся за іх захаванне.

Даследчык таксама закрануў тэму знішчэння старадаўніх алей, якія маглі б стаць папулярнымі турыстычнымі аб'ектамі. На яго думку, калі прафесійна зняць высахлыя галінкі, то дрэва адновіць рост. Калі ж высякаць, то неабходна пасадзіць на гэтым месцы новае дрэва.

Унікальны матэрыял кнігі «Старадаўнія сядзібы Гродзеншчыны» можа стаць асновай для распрацоўкі турыстычных маршрутаў па тэрыторыі Гродзенскай вобласці. Як адзначыў Анатоль Федарук, у гісторыі палацава-паркавага мастацтва яшчэ шмат белых плям, і ў планах — выпуск іншых кніг па гэтай тэме.

**Вольга КАЦЬКО,**
**фота аўтара**

*На паліцы*

# Калі было першае беларускае ню?

Пытанне, над якім наўрад ці хто задумваўся. Але ж цікавае! Для самага шырокага кола чытачоў: ад прафесіяналаў гуманітарнай навукі да люду паспалітага. Адказ — у новай кнізе маладога, але ўжо вядомага археолага, культуролага, публіцыста Мікалая Плавінскага «Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор».

Зрэшты, пытанне вынесена ў наш загаловак адмыслова — прывабіць увагу чытачоў да выдання. Бо насамрэч аўтар пастараўся выкласці і шмат іншых яскравых старонак айчыннай археалогіі, ставячы, відавочна, мэту не столькі ўцягнуць у гэтую рамантычную навуку новых даследчыкаў, колькі пашырыць кола аматараў беларускай мінуўшчыны. Таму матэрыял рэпрэзентуецца як пад вуглом багацця культуры нашых продкаў, так і ў фокусе прыцягальнай таямнічасці і мінулага, і навукі пра яго.

Усяго кніга змяшчае 10 нарысаў пра самыя розныя артэфакты. Галоўнае, што іх аб'ядноўвае, — асэнсаванасць, прапушчанасць праз сябе самім аўтарам. А значыць, нам гарантаваны прафесійны ўзровень у аповедах, без здрады навуковасці, пацверджаны рэцэнзентамі — шматгадовымі штосезоннымі практыкамі археалагічнай навукі Максімам Чарняўскім і Віталём Сідаровічам.

Разам з тым М. Плавінскі пастараўся зрабіць падачу матэрыялу займальнай. Вучоны не абмяжоўваецца акадэмічным фарматам і адчувае, што трэба патэнцыяльнаму чытачу. Таму і пачынае з нарысаў пра скарбы — «Дар багам», «Скарб ювеліра»,




«Пояс Вітаўта». Канечне, немагчыма было распавесці пра ўвесь маштаб каштоўных знаходак у беларускай зямлі. Але аўтар здолеў адлюстраваць іх якасць, якая дае падставы казаць пра Беларусь як пра краіну скарбаў. У той жа час нарысамі «Горад Брачыслава», «Замак каралевы Боны», «Язэп Драздовіч і мінская брама», «Дзе знаходзіўся Трывеж?» паказана, што зямля нашых продкаў была яшчэ і краінай замкаў.

Прычым М. Плавінскі ў многіх нарысах структуруры сюжэт з прыцэлам на пэўную інтрыгу. Так, нечаканая развязка з'яўляецца ў апошнім тэксце з названага шэрагу. Мала таго, што ў чытача ёсць магчымасць даведацца пра альтэрнатыўны герб Навагрудка — Трывеж (яго прапанаваў некалі Язэп Драздовіч), дык яшчэ і перанесціся на Месяц, дзе дзякуючы сваім самнамбулічным снабачанням той жа Я. Драздовіч убачыў аналаг Навагрудскага замчышча.



*Гараўлянскі скарб (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці).*

Кожным нарысам М. Плавінскі прыадкрывае і некаторыя сакрэты археалагічнай «кухні». Па-першае, расказвае пра гісторыю (ці гіпотэзу гісторыі) таго ці іншага артэфакта ў далёкія часы. Па-другое, паралельна вядзе аповед, як яго калегі ці ён сам спрычыніліся да выяўлення пэўнай знаходкі. Па апошніх лініях можна прасачыць дынаміку археалагічных адкрыццяў. Аказваецца, што іх колькасць і значнасць з часам не менее. Гэта ўказвае на тое, што нашы падземныя глыбы і слаі чакаюць новых і новых даследчыкаў. Так, славуты «пояс Вітаўта» быў знойдзены ўвогуле адносна нядаўна — у 1992 годзе. Да таго ж гэтым прыкладам аўтар дэманструе, што і тыя знаходкі, якія сёння ўжо трывала занялі месца ў музейных экспазіцыях, дарэшты не вывучаныя.

Такімі з'яўляюцца і сярэднявечныя «фотаздымкі». Падаюцца малюнкі як рэлігійнага, так і свецкага характару. Сярод іх — першая са знойдзеных на беларускай зямлі выява аголенай чалавечай натуры, выкананая недзе ў XII ці XIII стагоддзі.

Завяршае кнігу нарыс пра калег. У ім аўтар аддае даніну павагі, а некаторым (Міхасю Чарняўскаму, Віктару Абуховічу) і памяці, расказваючы пра будні і рамантыку сваёй прафесіі ці, лепей сказаць, паклікання, бо толькі апантанаму адкрываюцца нетры нашай зямлі і нашага мінулага.

Для большага заглыблення ў тую ці іншую тэму М. Плавінскі паклапаціўся і сфарміраваў спіс асноўнай літаратуры. Таму кніга прыдасца і студэнтам гістарычнага факультэта — як дапаможнік.

Зразумела, такое выданне не магло абысціся без ілюстрацыйнага матэрыялу. Акрамя немалога аб'ёму тэксту, аўтар змог уціснуць у 130 мелаваных старонак каля 250 малюнкаў. Як той казаў, лепей адзін раз убачыць... Але ўвогуле пасля прачытання кнігі хочацца яшчэ і пабачыць некаторыя экспанаты ўвачавідкі, хаця б за музейным шклом. Не будзе дзіўным, калі для асобных чытачоў кніга стане і першым крокам у археалагічную навуку.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**



*Спражка з паяснога набору са скарбу з-пад вёскі Літва — так званага «пояса Вітаўта».*

# Віртуозы мячоў і практычнай магіі



Рыцарскія баталіі.



Спадары гусары.

Убачыце на вуліцы старажытнага рымляніна ці каўбоя — не здзіўляйцеся. У Мінску ёсць людзі, якія ўмеюць пераўвасабляцца ў каго заўгодна: ад пячорных людзей да персанажаў з фільма «Зорныя войны». Не, яны не плён фантазіі Герберта Уэлса — працуюць у рэальным творчым калектыве. Каманда экстрым-тэатра «Берсерк» — гэта акцёры трукавых сцэн, каскадзёры, акрабаты і асілкі, музыканты і танцоры, рэжысёры і сцэнарысты. Яны ўдзельнічаюць у міжнародных і рэспубліканскіх фестывалях, здымаюцца ў кіно, праводзяць прыватныя святы, вогненныя і неонавыя шоу. Але галоўнае — могуць з дэталёвай дакладнасцю ўвасобіць на сцэне любую гістарычную эпоху. Хутка «Берсерк» арганізоўвае два буйныя фестывалі ў Дудутках — «Купальскае кола» 20 — 21 чэрвеня і «Наш Грунвальд» 25 — 26 ліпеня. Напярэдадні важных падзей акцёр трукавых сцэн і кіраўнік каманды Аляксандр Рак раскрыў таямніцу сваёй незвычайнай прафесіі, распавёў пра рэканструкцыю беларускай гісторыі і... карысць ад вострых адчуванняў.

**— Ці сапраўды «Прабацькі» экстрым-тэатра «Берсерк» хадзілі ў рыцарскіх даспехах?**

— Аднойчы, 8 сакавіка 2002 года, нас, юных удзельнікаў ваенна-гістарычнага клуба «Ордэн Паўночнага Храма», аматараў фехтавання і баёў, запрасілі арганізаваць рыцарскі выступ. Справа была на масленіцу. Мы зладзілі пастаноўку з амаль кінематаграфічным сюжэтам і, зразумела, элементамі трукаў. Адважны рыцар вяртаўся дадому з Палесціны з мехам золата на плячах, але каля аднаго з шынкоў на яго напалі двое невядомых. Бравыя хлопцы спрабавалі дабрацца да воіна, але ў выніку надавалі аплявух адзін аднаму. Публіка прыняла наш дэбют на «ўра», і мы загарэліся гэтай справай. Сёння, праз 13 гадоў з пачатку працы экстрым-тэатра, шмат што здаецца вельмі небяспечным, а часам — смешным! Усё вынаходзілі самі. Першы раз ледзь не спалілі лес вакол Цнянскага вадасховішча...

**— Якія трукі выконвае каманда цяпер?**

— У Беларусі амаль усе каскадзёры, у тым ліку і з «Берсерку», — мультыспецыялісты. Мы ўмеем падаць з вышыні, перакульвацца ў аўтамабілі, біцца ўрукапашную, адпрацоўваць гарэнні і выбухі, выконваць акрабатычныя нумары і конныя шоу. Мая любімая справа — фехтаванне. Прычым на любых відах зброі: ад нажоў і шабель да рапір, шпаг і алебард.

**— Вы рэканструюеце гістарычныя падзеі з любой эпохі?**

— Абмяжоўвае толькі фантазія! Пераўвасабляемся ў рыцараў і вікінгаў, гладыятараў і піратаў, індзейцаў і гангстараў, салдат Другой сусветнай вайны і напалеонаўскіх баталій. Але адна з галоўных умоў усіх пастановак — дакладнасць гістарычных фактаў. Важна, каб у свядомасці гледачоў фарміравалася гісторыя сваёй краіны і іншых дзяржаў.



Аляксандр Рак у чарговым вобразе.

**— Ці аднаўляеце вобразы з традыцыйнай беларускай культуры?**

— Вядома! Экстрым-тэатр падзелены на некалькі творчых калектываў, і адзін з іх — група артыстаў пад назвай «Вясёлы шляхцюк». У сваіх выступах яны робяць прамыя адсылкі да беларускіх шляхецкіх традыцый і народных абрадаў. Гледачы могуць акунуцца ў атмасферу часоў, калі Беларусь была рыцарскай дзяржавай, славілася па ўсёй Еўропе як краіна замкаў. Мы часта ладзім конныя турніры, цэнтральны элемент якіх — так званыя «шыбкі». Толькі ўявіце: два коннікі ў даспехах імчацца адзін на аднаго, каб выбіць праціўніка з сядла ўдарам дзіды, дэманструючы іншыя трукі — напрыклад, хто-небудзь з іх лязом пяціметровай дзіды падымае з зямлі шаўковую хустку, нават не падрапаўшы яе! Класічнымі ўжо сталі пастаноўкі шляхецкіх баляў з вытанчанымі танцамі, грандыёзныя шабельныя паядынкі.

**— Аляксандр, навошта вам пастаянны адрэналін?**

— Экстрым дзейнічае як энергетык. Я атрымліваю шчырае задавальненне, сапраўдны кайф, буру эмоцый ад кожнага выступу! Асабліва калі гледачы горача апладзіруюць, а рэжысёр кажа: «Усё супер! Знята!». Люблю сваю дзейнасць за аддачу, а адрэналін — проста яе прыемнае дапаўненне. У мяне ўжо выпрацавалася стрэсаўстойлівасць і цягавітасць, каб спакойна пераносіць усе небяспечныя сітуацыі.

**— Падрыхтоўка да трукаў. Што гэта за працэс?**

— Якасны трук, напрыклад, прыгожы пастановачны паядынак, — вынік доўгіх рэпетыцый і трэніровак. Кожны рух пралічваецца да дробязей — для бяспекі і эфекту. Таму самае складанае — ва ўменні стварыць з асобных удараў і прыёмаў відовішчную карціну.

**— Гэта значыць, усе каскадзёры збольшага акцёры?**

— Акцёры трукавых сцэн — гэта паняцце больш падыходзіць для ўдзельнікаў экстрым-тэатра «Берсерк». Мы ўмеем не толькі біцца, выбухаць, падаць, але і прамаўляць паўнавартасны тэкст, правільна рухацца. Нашы каскадзёры не проста дублююць акцёраў, а самі імі з'яўляюцца. Для гэтага, вядома, многія праходзяць спецыяльныя курсы.

**— Дзе больш складана: у кадры ці на жывым выступленні?**

— Мы часта працуем у анлайн-рэжыме — тварам да твару з гледачом. У кіно можна зрабіць дзясятак дубляў, потым зманціраваць, выбраць выйгрышны ракурс, а на рэальнай сцэне такой магчымасці няма, таму патрабуецца больш пільная падрыхтоўка.

**— У якіх кінапраектах удзельнічалі?**

— Шмат здымаемся ў серыялах — «Ляснік», «Следчы Пратасаў», «Белыя ваўкі», «Выкрасці Бельмандо» і г. д. Адзін з самых цікавых праектаў апошняга часу — ваенна-гістарычная драма «Перапыненыя ўспаміны». Прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі, гэты фільм здымаецца кінематаграфістамі Беларусі і Азербайджана. У стужцы рэалізавана шмат эфектных трукаў, асабліва на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці. Мы аднаўлялі першыя дні вайны...

**— Павандруем у часе. Ваша будучыня гадоў праз дзесяць?**

— Мару ўзнавіць сапраўднае замчышча XII — XIII стагоддзяў, своеасаблівы гістарычны цэнтр, дзе будуць выступаць артысты нашага тэатра, праводзіць майстар-класы. Такі камерцыйны і адукацыйны праект цалкам рэальны. Кожны зможа акунуцца ў іншую эпоху: паглядзець, напрыклад, як робіцца кальчуга, узяць удзел у касцюміраваным балі ці навучыцца карыстацца сярэднявечнай зброяй.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Умоўна мірнае жыццё

Прэм'ерныя паказы спектакля «Дзед» па п'есе Вячаслава Паніна «Я так і зрабіў» прайшлі ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Пастаноўка, прымеркаваная да 70-годдзя Перамогі, — рэжысёрскі дэбют акцёра і музыканта Дзяніса Паршына.

Дзяніс Паршын прыехаў з Прыпяці ў Маладзечна, там займаўся ў тэатры-студыі «ТэСт» пад кіраўніцтвам Таццяны Бабей. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. У 2003 годзе з дыпломам рэжысёра драмы патрапіў на сцэну РТБД. А поспех займеў праз ролі Траплёва ў чэхаўскай «Чайцы», Янкі Купалы ў спектаклі «Купала. Кругі раю» С. Навуменка, Васіля Сухарэўскага ў нашумелай «Сталіцы Эраунд» С. Гіргеля і іншых. Такая метамарфоза ў біяграфіі Д. Паршына не выпадковасць. Ён прызнаецца, што стаў акцёрам, каб знутры спазнаць тэатральную кухню, а ўжо затым спрабаваць сябе ў рэжысуры. Д. Паршын зняўся ў шэрагу фільмаў і серыялаў, ён спявае і піша музыку да спектакляў («Сталіца Эраўнд», «Белы анёл з чорнымі крыламі»).

Сваю першую пастаноўку Дзяніс Паршын робіць пасля дванаццаці гадоў працы на тэатральных падмостках. Па прапанове мастацкага кіраўніка РТБД Аляксандра Гарцуева малады рэжысёр бярэцца за п'есу Вячаслава Паніна «Я так і зрабіў», якую дзесяць гадоў таму хацеў паставіць Валерый Раеўскі. Гэта трагікамедыя пра Вялікую Айчынную вайну. Адолець складаны матэрыял дапамагала ўся творчая група: перш за ўсё мастацкі кіраўнік Аляксандр Гарцуеў, мастак-пастаноўшчык Юрый Саламонаў, а таксама акцёры РТБД, сярод якіх заслужаныя артысты Беларусі Валянцін Салаўёў (Дзед) і Людміла Сідаркевіч (Светка), Андрэй Дабравольскі (Генка) і Дзмітрый Давідовіч (Сціпан).

Калісьці дзед быў салдатам на вайне, страціў сябра Сціпана, вярнуўся героем, а калі памерлі дзеці, сам выгадаваў унукаў Генку і Светку. Цяпер ён для іх ляжачы, прыдуркаваты стары і цікавіць былых гадаванцаў толькі ў якасці гаспадара кватэры, бойкі за якую вядуцца амаль штодзень. Жонка Генкі хоча прадаць кватэру і перад гэтым робіць рамонт. Аддаць грашовую пазыку яна плануе са «святочнай» пенсіі Дзеда, якая павінна прыйсці да Дня Перамогі. Ад непрывабнай рэальнасці Дзед хаваецца ва ўспамінах пра вайну, пакутлівых, але выключных у сваёй жорсткай шчырасці і сапраўднасці. Уяўленне Дзеда выклікае з небыцця прывід Сціпана, з ім адным стары размаўляе пра былое, прызнаецца, што зайздросціць ахвярнай, а таму не бессэнсоўнай смерці сябра.

Сучаснасць маладых, занятых кватэрным пытаннем, і ваеннае мінулае Дзеда ўвасабляюць не толькі два часы, але два сусветы, дзве вайны, супрацьпастаўленыя і рэзка кантрасныя. У пастаноўцы яны аддзелены поліэтыленавай плёнкай: ёю накрываюць Дзеда, пакуль ідзе рамонт; на яе праецыруюцца дакументальныя кадры баёў і відэагульня-«стралялка» Генкі, поліэтыленавая шырма кожны раз становіцца паміж канфліктуючымі персанажамі. Як вынік — мы адзін аднаго бачым, але стаім па розныя бакі. З аднаго боку — поўныя драматызму сцэны гутарак Дзеда і Сціпана, успаміны, увасобленыя ў радыёпераговорах сувязнога ваеннага штаба з сувязным узвода, што трапіў у акружэнне да немцаў; «Свяшчэнная вайна» і традыцыйная сімволіка Перамогі: медалі на гімнасцёрцы, зялёная каска, чырвоныя кветкі, салют. З другога боку — ціхі алкагалізм Генкі, крыклівыя спрэчкі жанчын, цынічныя жарты рабочых, і ўсё гэта нечакана завяршаецца сучаснымі танцамі.

Трагікамедыя падзяляецца на трагедыю вайны і камедыю ўмоўна мірнага жыцця. Іх шляхі ў фінале спектакля разыходзяцца канчаткова: Сціпан прапаноўвае Дзеду вярнуцца з ім у гады ваеннай маладосці, той пагаджаецца і сыходзіць назусім. Пасля хвіліны жалобнага маўчання над пустым ложкам Дзеда кватэрная вайна працягваецца, ізноў пачынаюцца танцы. Так высокая чыстая нота недарэчна перакрываецца шумам паўсядзённасці.

Кампазіцыйныя рашэнні спектакля не дазваляюць арганічна ўспрыняць дзве пераплеценыя сюжэтныя лініі: паасобку яны выбудаваны, але стык у іх грубаваты. Разам з тым відаць сур'ёзную працу рэжысёра ў змаганні з бытавым складнікам п'есы, падтрымку акцёраў, ролю калектыўнага ўзаемадзеяння.

Безумоўна, Дзяніс Паршын — чалавек тэатра. Гэта не выклікае сумневу ў тых, хто бачыў яго на сцэне. Рэжысёрскі дэбют акцёра — яшчэ не канчатковая перамога, а толькі адзінкавы бой, першы бой...

**Паліна ПІТКЕВІЧ**

*Да 70-годдзя Вялікай Перамогі*

# Партызанскія святары



*Айцец Мікалай Хільтоў з сям'ёй: малодшая дачка Кіра, матушка Наталля і старэйшая дачка Надзея.1937 г.*

**Братоў Георгія і Мікалая Хільтовых ведалі ў Блячыне (цяпер вёска Садовая непадалёк ад Клецка) і акрузе ўсе. Спакон веку святары і іх сем'і былі ў цэнтры ўвагі грамадства. На іх раўняліся, бралі за прыклад, звярталіся і ў радасці, і ў смутку.**

Мой бацька Георгій Аляксандравіч Хільтоў служыў святаром у клецкай Свята-Пакроўскай царкве, а яго брат Мікалай — святаром у блячынскай Свята-Іаана-Прадцечанскай царкве.

Падчас акупацыі браты Хільтовы адразу ўключыліся ў барацьбу з ворагам. Бацька арганізаваў збор прадуктаў і адзення для ваеннапалонных, лагер якіх знаходзіўся каля Клецка. Прыхаджане падтрымалі. А мая цётка Таццяна Пятроўна Валасовіч (Лукашэвіч), партызанка атрада імя Чкалава брыгады імя Суворава, дапамагала ваеннапалонным вырвацца на волю. З часам бацька змог уладкаваць у клецкую бальніцу знаёмую акушэрку, якая праз цётку перадавала партызанам медыкаменты.

У 1942 годзе ў Клецк прывезлі вялікую групу насельнікаў Мінскага дзіцячага дома. Сярод іх былі і яўрэйскія дзеці. Каб абараніць хлопчыкаў і дзяўчынак, бацька перахрысціў іх у праваслаўную веру і выдаў адпаведныя дакументы. Такі ўчынак айца Георгія мог скончыцца трагедыяй для ўсёй яго сям'і.

Калі партызанам з дапамогай айца Мікалая ўдалося схіліць на свой бок каменданта клецкай паліцыі Гурына, у доме Георгія Хільтова (захаваўся да нашых дзён) праходзілі сустрэчы партызанскіх сувязных з камендантам, які перадаваў ім важныя звесткі.

Рызыкуючы жыццём, браты Хільтовы зачытвалі ў цэрквах зварот Патрыяршага Месцаахоўніка Мітрапаліта Маскоўскага і Каломенскага Сергія з заклікам змагацца з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Айцец Мікалай быў сувязным партызанскага атрада імя Катоўскага брыгады імя К. Варашылава, якая дыслацыравалася на Капыльшчыне. Яго дом і царква часта станавіліся не толькі надзейным прытулкам для народных мсціўцаў, але шпіталем, штабам, складам зброі.



*Айцец Георгій Хільтоў.*

Бывала, немцы, паліцэйскія і партызаны спыняліся ў доме айца Мікалая па чарзе. А здаралася, і адначасова. Няпроста айцу Мікалаю і матушцы Наталлі было. Выратоўвала кемлівасць — схаваць партызан і абараніць сябе. У адну з такіх начэй усе сямейнікі пасівелі.



*Матушка Лідзія.*

Аднойчы падчас бою смяротна паранены быў камандзір разведвальна-дыверсійнага дывізіёна Мікалай Анохін. Партызаны прывезлі яго ў дом айца Мікалая. Ён адслужыў паніхіду і пахаваў загінулага ў гумне. Пазней партызаны перахавалі Мікалая Анохіна ля Блячынскай царквы. Пасля вайны астанкі камандзіра перанеслі ў брацкую магілу ў в. Зубкі. Чуў ад блячынцаў, што старэйшая дачка айца Мікалая Надзея кахала адважнага байца, перапісвалася з яго роднымі.

Прыхаджане здагадваліся, што айцец Мікалай дапамагаў партызанам, ды не выдавалі. Аднак знайшоўся здраднік, які назваў ворагам святара, а з ім і іншых патрыётаў.

Братоў Хільтовых арыштавалі ў Вялікую пятніцу напярэдадні Вялікадня і адправілі ў Калдычэўскі лагер смерці. Жонкі братоў Лідзія (мая маці) і Наталля (цётка), спрабуючы вызваліць іх, накіраваліся ў Баранавічы. Але там іх затрымаў патруль, адправілі ў Калдычэўскі лагер.

Тут загінула больш як 22 тысячы чалавек. У жывых цудам застаўся беларускі паэт, кампазітар, музыкант і мастак Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн. Пасля расказаў страшную праўду. Злачынцаў-душагубаў з Калдычэўскага лагера прыгаварылі да смяротнага пакарання. Такі ж лёс спасціг і каменданта лагера Фрыца Іорна, якога знайшлі сярод ваеннапалонных немцаў у горадзе Курску.

Сяргей Новік-Пявун вучыўся з маёй маці ў Вільна, сябравалі. А сустрэліся ў лагеры смерці, дзе загінулі мае бацькі, мой дзядзька з жонкай, мой дзед святар А. І. Валасовіч і жонка Сяргея Новіка-Пяюна Людміла Новік з маленькім сынам.

У 2013 г. па ініцыятыве рэферэнта па гістарычных пытаннях Мінскага епархіяльнага ўпраўлення, каардынатара Царкоўна-навуковага цэнтра «Праваслаўная энцыклапедыя» Генадзя Шэйкіна з благаслаўлення Мітрапаліта Філарэта былі зроблены першыя крокі па ўвекавечанні памяці святароў-патрыётаў. У эфіры Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё ў праграме «Свята душы» прагучалі радыёперадачы пра подзвіг братоў Хільтовых у гады Вялікай Айчыннай вайны. Летась, у чэрвені, на Першым нацыянальным канале пра іх быў паказаны тэлевізійны фільм «Крыжовы шлях», а ў жніўні ў Клецку адбылася цырымонія ўвекавечання памяці святара Георгія Хільтова, у в. Садовая — цырымонія ўвекавечання памяці святара Мікалая Хільтова.

**Мікалай ХІЛЬТОЎ**

*Пуцявіны*

# Узброены газетай

**Мой зямляк Антон Васілеўскі нарадзіўся ў вёсцы Дуброўскія (цяпер Талачынскі раён). Яго і мае жыццёвыя абставіны ў многім падобныя, блізкія духоўныя памкненні.**

Антон скончыў сямігодку, паступіў у Аршанскі падтэхнікум, — там і абудзілася яго зацікаўленая натура. Самастойную працоўную дзейнасць пачаў у Аршанскім райкоме камсамола інструктарам аддзела культуры, потым — загадчык аддзела. Праз два гады яго выбралі сакратаром сакратаром камітэта камсамола ўчастка цягі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Адзначалі арганізатарскія і творчыя здольнасці. Ды маладому рупліўцу хацелася развівацца: на мэце — паступіць у КІЖ, які ўжо збіраў таленавітых юнакоў і дзяўчат.

З 1935 Анатоль Васілеўскі — студэнт Камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. М. Кірава. Праляцелі гады вучобы, і вось першая пасада: загадчык аддзела камсамольскага жыцця маладзёжнай газеты «Чырвоная змена». Пасля ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Маладога журналіста прызначаюць рэдактарам браслаўскай раённай газеты «Звезда». Толькі арганізаваў яе выпуск, як тэрмінова адклікалі ў Мінск і прызначылі інструктарам ЦК КП (б) Беларусі.

Але вайна ўсё перайначала. Васілеўскі выпраўляецца ў баявы рэзерв у Мардовію, дзе становіцца палітруком рабочага батальёна, лектарам гаркама. У 1942 адклікалі ў Маскву і прызначылі начальнікам экспедыцыі па распаўсюджванні агітацыйнай і палітычнай літаратуры ў тыле праціўніка. А ў лістападзе самалётам закінулі ў партызанскую зону. І Антон Васілеўскі ўжо рэдактар вілейскай абласной падпольнай «Сялянскай газеты». З Вялікай зямлі даставілі друкарню, паперу, фарбу. У снежні ўбачыў свет першы нумар газеты тыражом 500 экзэмпляраў. Гэта была важная падзея для падпольшчыкаў, партызан і мясцовага насельніцтва. У канцы жніўня сорак трэцяга рэдакцыя перабазіравалася ў раён возера Нарач, а яе кіраўнік выбыў у савецкі тыл.

Пасля вызвалення рэспублікі Антон Ціханавіч зноў на пасадах — рэдактар Аршанскай раённай газеты «Ленінскі прызыў», у 1945 г. — палацкай абласной газеты «Бальшавіцкі сцяг». А з сорак шостага — у Мінску: намеснік рэдактара «Настаўніцкай газеты», намеснік рэдактара газеты «Калгасная праўда». З 1951-га (20 год запар!) адказны рэдактар часопіса «Народная асвета».

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

*Запаветнае*

# Скалечаная маладосць

**Вайна скалечыла, змарнавала жыццё маіх любых бабуль Еўдакіі Аляксандраўны Давідовіч і Марыі Фамінічны Барэйка.**

Марыя другім разам выправіла мужа Рыгора на фронт: адпачываў пасля ранення. Вяртаўся некалькі разоў, гаварыў: «Беражы дзетак, памятай, дзе я схаваў зерне ад немцаў, каб вы не галадалі...»

Сэрца Рыгора падказвала, што родных бачыць апошні раз. Загінуў пад Беластокам. Паводле аднавяскоўца Уладзіміра, дзядуля падарваўся на міне... Так і не давелася, што ў яго нарадзілася дачка, прыгожая, як лялька, — мая цётачка Галя.

Марыя вельмі гаравала, захварэла і памерла. Галю забрала мая маці. Прытуліла дзяўчо: «Будзем жыць адной сям'ёй. Пакуль ты з намі, ніхто цябе не пакрыўдзіць». Галя была старэйшай, таму даглядала нас, меншых, дапамагала маці па гаспадарцы.

Ішоў час. Галя вырасла сапраўднай прыгажуняй. Прыйшло каханне — Марат, хлопец з суседняй вёскі, курсант танкавага вучылішча. Зладзілі вяселле.

Галя шмат паездзіла за мужам па прасторах Савецкага Саюза, была і за мяжой. А калі прыязджала да бацькоў мужа, распакаваўшы клункі, спяшалася з падарункамі ў суседнюю вёску да сваіх родных.

Другая мая бабуля, Еўдакія Аляксандраўна, была падчас вайны партызанскай сувязной. Дзед, Язэп Іванавіч, прапаў без вестак. Адно вядома: загінуў на фронце. Маці казала, бабуля была смелай і рашучай. Аднойчы яна вярталася з Мінска з задання. Яе спынілі немцы. Паліцай, які ведаў Еўдакію, сказаў: «Партызанка».

Схапілі, дапытвалі. Бабуля ў думках развітвалася са сваімі дзецьмі (іх было шасцёра). Дзякуй богу, партызаны вызвалілі...

**Ганна ПРЫЁМКА**

# У Казахстане помняць

**Часта бываючы ў Казахстане, збіраю драбніцы нашай агульнай літаратурна-мастацкай памяці. І, як высвятляецца, многія яе старонкі так ці іначай звязаны з пісьменніцкімі лёсамі. У Беларусі шмат хто з казахскіх мастакоў слова ваяваў. І гэта добра памятаюць сёння ў Алматы і Астане. Вось і нядаўняя паездка нагадала пра партызанскага камандзіра Адзія Шарыпава. Яго ўдава, Клара Жагіпараўна, перадала калекцыю фотаздымкаў: многія з іх вяртаюць у ваеннае ліхалецце.**


Фота з архіва Клары Шарыпавай
Адзій Шарыпаў і Клара Шарыпава.

Пісьменнік, які змагаўся ў шэрагах народных мсціўцаў на Магілёўшчыне, памяць пра Беларусь-партызанку захаваў у многіх сваіх творах. І найперш — у бліскучай аповесці «Гісторыя аднаго кажушка». Беларуская тэма гучыць і ў аповесцях Адзія Шарыпава «Дачка партызана», «Помста», «Зоркі ў цямніцы». Партызанскім выпрабаваннем прысвечаны кінафільм, зняты па сцэнарыі казахскага творцы, — «Лясная балада».

А здымкі, што беражліва захоўваюцца ў сям'і пісьменніка, — з ваенных часін і з тых пасляваенных гадоў, калі Адзій Шарыпаў наведваўся ў Беларусь да сваіх баявых сяброў.

Сапраўдная фотатэка, якая з'яўляецца красамоўным сведчаннем беларуска-казахстанскай дружбы, магла б стаць і асновай адмысловага фотаальбома. Напрыклад, з назвай «Слова — супраць вайны: пісьменнікі розных народаў у змаганні за Беларусь». Ваявалі ж у Беларусі рускі паэт Аляксандр Твардоўскі, калмык Міхаіл Хонінаў, удмурт Піліп Кедраў, грузін Мірза Гелавані, узбек Султан Джура... Пералік можа быць доўгі. Хтосьці з іх і загінуў ад фашысцкіх куль на беларускай зямлі. Многія паэты, празаікі напісалі пра Беларусь у Вялікую Айчынную вайну свае аповесці, апавяданні, вершы, паэмы.

А ілюстрацыямі ў такім фотаальбоме маглі б быць творы, урыўкі з твораў пра ваеннае ліхалецце ў Беларусі ў перакладзе на беларускую мову. Тым больш, нашымі перакладчыкамі напрацавана ў гэтым плане вельмі і вельмі шмат. Мне з казахстанскай паэзіі помніцца і верш «Беларускаму лесу». Аўтар — Сырбай Мауленаў. Пераклаў Рыгор Барадулін... «Выстаяў лес, лёг у мірныя зрубы, / Зноў верасамі палаюць паляны. / Нізкі паклон табе, зеленачубы / Лес беларускі, ў агні гартаваны!»


Адзій Шарыпаў і Міхаіл Шолахаў.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Верны ідэалам

Выстаўка «Хроніка Уладзіміра Крукоўскага», прысвечаная творчасці майстра мастацкага плаката, працуе ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык». У экспазіцыі прадстаўлена амаль сорак работ, створаных у 1972 — 2008 гадах. Наведвальнікі пазнаёмяцца з разнапланавай і шматграннай творчасцю таленавітага чалавека, лёс якога звязаны з Пружаншчынай: школьныя і юнацкія гады Уладзіміра Якаўлевіча прайшлі ў г. п. Ружаны.

Выстаўка — своеасаблівая рэтраспектыва творчасці мастака. Тут выяўляецца шматгранны жанравы дыяпазон аўтара, тэматычная разнастайнасць. Кожны з плакатаў, а іх больш за дзве сотні, — удумлівы водгук на з'явы і падзеі грамадства. Творы, насычаныя вастрынёй, сімвалізмам, дасканаласцю, — вынік напружанай працы, філасофскага асэнсавання ідэі.



«Песня пра зубра». 500 гадоў з дня нараджэння М. Гусоўскага. 1980 г.

Адна з вядучых тэм мастака — ваенная. Сям'я Крукоўскіх перажыла акупацыю. Вайну мастак бачыў на ўласныя вочы. Асабістыя перажыванні, увасобіў у творах. Боль і пранікнёнасць зразумелыя людзям розных нацыянальнасцей: работа «Слава героям падполля» — экспанавалася ў Парыжы ў штаб-кватэры ЮНЕСКА (у 1975 г.), плакат «Назаўсёды ў памяці народа» прадстаўляўся на славутым варшаўскім Біенале плаката і інш.



«У бітвах за волю, у бітвах за долю». 1980 г.

Важны кірунак у творчасці У. Крукоўскага — зварот да беларушчыны. Менавіта яго працы паклалі пачатак жанру гістарычнага плаката ў айчынным мастацтве. У «Пружанскім палацыку» прадстаўлены вядомыя плакаты «У бітвах за волю, у бітвах за долю», «Народ стварае характарства», «Павага да мінулага», «Зброя масавага знішчэння», «Грунвальд. 1410»... Мастак неаднаразова звяртаўся да знакавых імёнаў роднай гісторыі: М. Гусоўскага, Ф. Скарыны, А. Пашкевіч (Цёткі), Я. Драздовіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, актыўна супрацоўнічаў з тэатрамі і музеямі, ствараючы афішы для прэм'ерных спектакляў і выставак.

У розны час У. Крукоўскі выступаў як мастацкі рэдактар папулярных перыядычных выданняў: часопісаў «Маладосць», «Мастацтва Беларусі», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Спадчына». Яго артыкулы на гістарычныя, мастацтвазнаўчыя, грамадска-палітычныя тэмы неаднаразова друкаваліся на старонках «Літаратуры і мастацтва», «Голаса Радзімы» ды інш.

Крукоўскі праявіў сябе і як даследчык. Працуючы ў архівах, найшоў і апублікаваў шматлікія выявы гербаў беларускіх шляхецкіх родаў, а ў 2010 г. з друку выйшла яго праца, прысвечаная прыватнай геральдыцы Беларусі «Срэбная страла ў чырвоным полі».

Творы У. Крукоўскага захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Дзяржаўным літаратурным музеі М. Багдановіча, Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, музеях Літвы, Польшчы, Расіі. Плённая дзейнасць адзначана медалём «За заслугі ў выяўленчым мастацтве».

**Наталля ПРАКАПОВІЧ, галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы «Пружанскі палацык»**

# Каралеўства лялек


Кацярына Камельчык дэманструе ўласны выраб.

**Патрапіць у чароўны лялечны свет змогуць наведвальнікі выстаўкі, якая адкрылася ў дзіцячай бібліятэцы № 10 г. Мінска. У экспазіцыі прадстаўлены вырабы ручной работы Кацярыны Камельчык.**

Надзін — жонка марака, Жанчына-паўлін, Гаспадыня залатога дракона і Берагіня сноў... І гэта — далёка не ўсе вобразы, якія ўбачаць госці. Калекцыя творцы ўжо налічвае каля 40 лялек! Кожная існуе ў адзіным экзэмпляры і нават мае пашпарт.

Кацярына Камельчык нарадзілася ў Маладзечне. Скончыла Віцебскае мастацкае вучылішча, затым — Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Вырабам лялек зацікавілася некалькі гадоў таму. «Яны дазволілі мне выказаць уласныя пачуцці і перажыванні, — распавяла майстар. — А яшчэ гэта спроба спалучыць веды, атрыманыя падчас вучобы».

Мастацкая лялька — не толькі ўнікальны вобраз, прадуманы да дробязей, але і тонкая ручная праца, спалучэнне шматлікіх аўтарскіх прыёмаў і тэхнік. Працэс стварэння цацкі праходзіць у некалькі этапаў і доўжыцца прыкладна месяц. Лепяць яе са спецыяльнага пластычнага матэрыялу — паперклея.

Натхненне, па словах Кацярыны, прыходзіць нечакана: «Бывае, бачу ў краме прыгожы лапік тканіны — і адразу ўяўляю будучы вобраз». Некаторыя персанажы нарадзіліся пасля прачытання літаратурных твораў. Так, сярод экспанатаў можна пазнаць герань з п'есы А. Чэхава «Тры сястры», што размясціліся на велізарным чамадане. Прадстаўлена і першая партрэтная лялька творцы «Да палёту гатовы!» — міні-копія сваяка Кацярыны. Зрабіць такую лялькy, канечне, больш складана, чым звычайную.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе пышнае ўбранне экспанатаў, створанае з трыкатажу, скуры, меху, атласу, тэкстылю... Некаторыя касцюмы ўпрыгожаны пацеркамі, пер'ем, карункамі. Ёсць у лялек і аксесуары — капелюшы, парасоны, сумкі, акуляры...

Вырабы Кацярыны Камельчык зачароўваюць дабрынёй і прыгажосцю, дапамагаюць верыць у цуды.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі вучні сталічнай школы № 121. Творца пазнаёміла дзяцей з экспанатамі і правяла майстар-клас па вырабе лялькі-абярэга.

Творы Кацярыны Камельчык знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Еўропе, Расіі і ЗША.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Геніямі нараджаюцца!

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Расійскі калекцыянер асабіста прывёз і расставіў экспазіцыю «Сальвадор Далі і Пабла Пікаса». Паводле Аляксандра Шадрына, калекцыю складаюць толькі прыжыццёвыя працы майстроў, пранумараваныя, ідэнтыфікаваныя і вывучаныя вядучымі сусветнымі спецыялістамі. Па экспазіцыі відаць, што калекцыянер трапятліва ставіцца менавіта да творчасці Сальвадора Далі: твораў гэтага іспанскага майстра прадстаўлена больш, чым П. Пікаса.

Так, на выстаўцы можна ўбачыць самую вялікую ў свеце калекцыю керамічных плітак Сальвадора Далі (у экспазіцыі іх шэсць — поўны камплект, а ў Фігерасе — на радзіме мастака — чатыры). Знакаміты сюррэаліст планаваў упрыгожыць імі стальніцы часопісных столікаў. Ні аднаго століка не было створана, але пліткі засталіся. А. Шадрын набыў поўны камплект яшчэ ва ўпакоўцы 1954 года. Акрамя таго, прадстаўлены знакаміты тэлефон-лобстар (адзіны ў свеце, які яшчэ працуе), а таксама скульптура трыумфальнага слана, сюррэалістычныя кветкі ды іншыя фантастычныя працы С. Далі.



Сальвадор Далі «Трыумфальны слон». 1984 г.



Сальвадор Далі «Касмічная Венера». 1980 г.

Фота Кастуся Дробава



Пабла Пікаса «Вакханалія IV». 1962 г.

Калекцыя работ Пабла Пікаса пачалася з графікі, якую Аляксандр Шадрын набыў у Амерыцы. Затым бізнесмен планаваў набыць 200 керамік іспанскага мастака ў Алана Рам'е, у майстэрні сям'і якога П. Пікаса і ствараў свае керамічныя творы. Перамовы вяліся некалькі гадоў, пасля чаго раптам перапыніліся, і калекцыя апынулася на аўкцыёне Christie's. Кошт на лоты вырас адразу ў шэсць разоў, і замест жаданых 200 А. Шадрын разам з сынам набыў 30 керамічных работ, якія і прадстаўлены на выстаўцы ў Мінску. Па словах бізнесмена, А. Рам'е ў 80 гадоў вырашыў прадаць усё, што звязана з П. Пікаса, каб вызваліцца ад ціску гэтай знакамітай асобы.

У залах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі ў рэжыме нон-стоп дэманструюцца фільмы-экскурсіі, у якіх расійскі калекцыянер распавядае пра свой збор. У межах культурна-адукацыйнай праграмы выстаўкі ўпершыню ў Мінску таксама адбылася прэзентацыя кнігі пра вытокі творчасці знакамітых іспанцаў — Сальвадора Далі і Пабла Пікаса. Акрамя таго, у кнізе прадстаўлены не вядомыя раней архіўныя дадзеныя па даследаванні радаводу Алены Дыяканавай (Гала), што таксама дапамагае зразумець складаны і шматгранны вобраз С. Далі.

Па словах Аляксандра Шадрына, яго збор трапіў у склад нацыянальнага здабытку Расіі, таму ў поўнай меры распараджацца ім ён не можа. Калекцыянер ездзіць з лекцыямі, ахвотна і шмат распавядае пра экспазіцыю, выдатна разбіраецца ў дэталях. Расійскі бізнесмен упершыню вывез выстаўку за межы сваёй краіны, і пасля экспанавання ў Мінску яна пераедзе ў Рыгу. А ў будучыні А. Шадрын плануе паказаць выстаўку ў Кітаі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Новы год вясной?

Ці зможаце вы ўседзець за святочным сталом, сярод усіх сваякоў, у тым ліку стрыечных бабуль, цётак, якіх ніколі не бачылі, і крыклівых немаўлятпляменнікаў два тыдні запар? Не? А вось жыхары Паднябеснай — лёгка! Новы дакументальны фільм «Свята вясны ў Кітаі» быў прэзентаваны 27 красавіка ў гасцініцы «Пекін» падчас закрытага прэс-паказу, а ўжо 3 мая яго змаглі ўбачыць гледачы ўсёй краіны на тэлеканале «Беларусь 2». Што ж незвычайнага ў гэтым праекце, створаным сумеснымі намаганнямі Белтэлерадыёкампаніі і Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі?

Здымачная група Белтэлерадыёкампаніі пабывала ў розных кутках Кітая, назіраючы за тым, як Новы год сустракаецца жыхарамі таго ці іншага рэгіёна. Аказваецца, у кітайцаў, як і беларусаў, два навагоднія святы. Першае адзначаецца па еўрапейскім фармаце, 1 студзеня, прычым вельмі сціпла, без шумных застолляў і бліскучых ёлак, а другое — у першы маладзік першага месяца года. Апошняя дата «плавае» паміж 12 студзеня і 19 лютага. Гэта і ёсць традыцыйны Новы год, Чуньцзэ, альбо Свята вясны, галоўная сямейная ўрачыстасць у Кітаі. Сваякі сапраўды з'язджаюцца з усіх куткоў краіны, каб сабрацца разам.

Аўтары праекта «Свята вясны ў Кітаі» распавялі пра ўнікальныя навагоднія традыцыі кітайцаў: стравы, якія павінны быць на стале, сакрэты ўпрыгажэння дома падчас Свята ліхтароў, старажытныя рытуалы і абрады, у тым ліку па выкліку духаў продкаў. Больш падрабязна гледачы змаглі даведацца пра падрыхтоўку да Новага года ў сям'і нашчадка самога Канфуцыя. Можна было пабачыць, як у маленькай, але вельмі ўтульнай сялянскай хатцы лепяць традыцыйныя пельмені, што па форме нагадваюць злiткі золата, кладуць у адзін са смачных «шарыкаў» манетку — на шчасце, апранаюць сімвалічныя чырвоныя пінжакі, абараняюць хату ад злоснага міфічнага звера, развешваюць каля дзвярэй стужкі з іерогліфамі.

Тэлевядучы, суаўтар сцэнарыя праекта і падарожнік Дзяніс Дудзінскі падзяліўся ўражаннямі ад паездкі ў Паднябесную: «Мы практычна не спалі, хацелася паглядзець усё! Тым не менш прыходзілася выбіраць толькі тое, што гарантавана будзе цікава гледачу».

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітая ў Беларусі спадар Цуй Цімін падкрэсліў важнасць падобных праектаў у кантэксце цесных культурных і эканамічных сувязяў дзвюх дзяржаў. Генеральны прадзюсар Белтэлерадыёкампаніі Кірыл Казакоў, у сваю чаргу, адзначыў, што «пра Кітай, гэтую цудоўную краіну з тысячагадовай гісторыяй, можна расказваць гадзінамі». І гэта не проста словы захаплення! На тэлеканале «Беларусь 2» чакаецца цэлая серыя фільмаў пра Кітай, якія плануецца выпусціць у эфір 17, 24 і 31 мая ў 12 гадзін дня.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Вакол свету за адну ноч

**Яркую падзею — штогадовую Міжнародную акцыю «Ноч музеяў» — храмы мастацтваў Беларусі запрашаюць сустрэць разам.**

Заўтра, 16 мая, незвычайнае свята «Вакол свету за адну ноч!» чакае мінчан і гасцей сталіцы ў музеі і на тэрыторыі парку імя Янкі Купалы. Арганізатары пазнаёмяць гледачоў з песеннай і танцавальнай культурай 15 краін, з якімі звязана імя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Своеасаблівае карнавальнае шэсце: кожны, хто апынецца ля сцен літаратурнага музея ў імгненне перанясецца з містычнай Індыі ў старажытную Літву або сонечную Грузію, адчуе ўплыў самабытнага Кітая ці апынецца у гарачай Бразіліі.

Тэмай арт-праекта «Ноч музеяў — 2015» Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі стане «Ціхая» ноч» пад дэвізам «У кожнага свая цішыня». Цішыня — спадарожнік любой музейнай экспазіцыі. У гэтым годзе, улічваючы вялікую колькасць наведвальнікаў акцыі, фармат мерапрыемства будзе крыху зменены. Білеты можна набыць толькі папярэдне! Наведвальнікам будзе рэкамендавана прыйсці ў вызначаны час, каб пазбегнуць вялікіх чэргаў і натоўпу ў залах музея. Але камерны фармат акцыі зусім не азначае, што інтэрактыўныя пляцоўкі саступяць месца традыцыйнаму агляду экспазіцыі. Змест застанецца па-ранейшаму захапляльным.

Літаратурны музей імя Петруся Броўкі адчыніць дзверы для сваіх гасцей падчас Міжнароднай акцыі пад сімвалічнай назвай «Ноч музеяў: месны склон». Тут пройдзе сустрэча з тварцамі, і адкрыццё выстаўкі сучаснай фатаграфіі, і лекцыя пра тое, як зрабіць сапраўды інтрыгуючы партрэт, і рокэнрольная рэтраспектыва ад прафесіяналаў ды імправізацыі таленавітых вулічных музыкаў Мінска, а таксама анімацыйная праграма кароткаметражных фільмаў міжнароднага кінафестывалю.

А ў сценах Гарадской мастацкай галерэі імя Л. Шчамялёва ў «Ноч музеяў» малююць усе! Калі вы сумняваецеся, ці ўмееце маляваць, — завітайце сюды вечарам і адкрыйце ў сабе мастака. Незалежна ад прафесійных заняткаў, жыццёвых прыхільнасцей, узросту, вы зможаце патрапіць у атмасферу творчасці, побач увесь час будуць беларускія мастакі, гатовыя дапамагчы.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 14.05.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2225.
Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1471 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12